
Родныя конкурсы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Яўген Дамброўскі → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3016) Год LIX | Беласток, 02 сакавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# І фольк, і рок

**Пяцьсот пяцьдзесят выканаўцаў, якія прадставілі дзевяноста песень, выступіла ў гэтым годзе ў час надзвычай эфектыўна арганізаваных цэнтральных элімінацый XXI Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня» (як конкурс гэта 45 выданне). У зале Падляшскай оперы і філармоніі ацэньвала ўдзельнікаў журы з пяці чалавек пад старшынствам фалькларыста і культуразнаўцы, былога намесніка міністра культуры Беларусі Тадэвуша Стружэцкага. Артысты змагаліся ў трох катэгорыях: аўтэнтычная народная песня, апрацаваная народная песня і сучасная песня. На сцэне паявілася таксама некалькі каманд, якія ўпершыню ўдзельнічалі ў фестывалі. З боку сцэны выступаючых суправаджаў банер з лагатыпам Беларускай перадачы Радыё Беласток з віднай у цэнтры Пагоняй.**




Злева: Збігнеў Насядка і Яўген Шэмет



«Тры пальцы» з Орлі

Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ — арганізатара Фестывалю, адкрываючы конкурсную прэзентацыю, падкрэсліў:

— Беларуская песня сярод беларускай нацыі на Беласточчыне жыве і развіваецца.

Старшыня журы Тадэвуш Стружэцкі патлумачыў нам:

— Галоўным крытэрыем для ацэнкі журы з'яўляецца культура выканання, сцэнічная культура. Мы ўлічваем таксама касцюмы, музычнае апрацаванне і абавязкова як артысты адчуваюць тое, што перадаюць аўдыторыі. Падзел на катэгорыі і падкатэгорыі (салісты, дуэты, трыо, квартэты, вакальныя ансамблі, эстрадныя групы, вакальна-інструментальныя групы, хары — М. Х.) вельмі справядлівы і кожнаму з выканаўцаў стварае роўныя магчымасці.

Член журы, настаўніца музыкі, вядучая хары Гражына Валкавыцкая-Тамашук падкрэсліла:

— Назіраю сёлета, што фестываль крыху змяняецца. Ёсць больш рок-гуртоў. Гэта толькі на плюс, таму што ёсць больш маладых людзей, якія хочуць падтрымаць беларускую культуру. І гэтая падтрымка — важная, незалежна ад таго ці гэта робяць калектывы чыста народныя, ці рокавыя, ці нейкія яшчэ.

На сцэне выступілі, спяваючы па адной песні, пераможцы раённых аглядаў фестывалю ў Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Сямятычах і Дуброве-Беластоцкай. Выступіла шмат маладых людзей. Сярод іх Ганя і Марыся з другога класа Белліцэя ў Бельску-Падляшскім. У размове з «Нівай» згодна прызналіся:

— Гэтае выступленне для нас вельмі важнае, таму што яно на нашай мове. Мы з рэгіёна, дзе кожны дзень гавораць на гэтай мове, і гэта вельмі важна для нас, каб працягнуць нашу беларускую традыцыю.

Маладых узростам бельскіх выканаўцаў, у тым ліку з калектываў «Вянок» і «Спадчына», падрыхтавала для выступлення Іаанна Хількевіч:

— Трэба было знайсці ў старых песнях, якія мы выконваем, нейкі мастацкі дух. Справа ў тым, каб у калектыве салісткі маглі знайсці сабе месца. Гэта цяжкая праца, але вельмі прыемная.

Былі, вядома, выканаўцы ў старэйшым узросце. У ліку з найстарэйшых былі Збігнеў Насядка з Беластока і Вера Нічыпарук з Маліннік. Яны абое сола выканалі пранікнёна а капэла тую ж песню, але, на здзіўленне абаіх, пад рознымі назвамі: «Па-над лугам» і «Там за гаем».

Сцянан Копа, заслужаны шукальнік беларускіх песень, пераканаў прыняць удзел у рэгіянальным адборачным конкурсе ў Гайнаўцы 67-гадовую Марыю Дзмітрук з хутара Ласінка, якая ў катэгорыі народнай апрацаванай песні (салісты) здабыла першае месца і на цэнтральным аглядзе фестывалю выступіла ўпершыню, выканаўшы «Хрысцінныя прыпеўкі»:

— Пані Марыя знаходзіцца ў выдатнай фізічнай і інтэлектуальнай форме. Я зачараваны ёю. Я дапамог ёй падрыхтаваць рэпертуар. Пані Марыя памятае песні, якія спявалі трыццаць або сорак гадоў таму, нават такія, якія я збіраў ці меў запісаныя на плёнку, але не мог разабраць словы, а яна іх памятала.

Лідзія Мартынюк, кіраўнік Вясковага дома культуры ў Рыбалах прывезла два калектывы — дуэт і салістку:

— Я вельмі рада, што наша асноўная каманда вырасла, хоць сюды не прыехалі дзве асобы, але дванаццаць чалавек у нашым калектыве гэта сапраўды шмат. У наш дом культуры прыязджаюць спяваць і з Заблудава, дзе ёсць дом культуры, але няма там беларускага калектыву, і з Паўлаў, і Давідавіч, і з хутара Рыбалы, ну і з саміх Рыбал. Беларускія калектывы ў нашай гміне ёсць толькі ў Козліках і якраз у Рыбалах, якія ў гміне з'яўляюцца цэнтрам беларускай культуры.

Кацярына Ціханюк са Збуча, кожны дзень у камандзе «Збучанак», трапіла на цэнтральны агляд як салістка. Яна выканала песню «Ішлі ляхі на тры шляхі»:

— Гэтая песня ўсім, верагодна, невядомая, ніхто, мабыць, яе не памятае. Я думала, што ў адборачным конкурсе яна не спадабаецца, а далі мне за яе трэцяе месца. Гэта песня даўняя, даўняя, проста ад маёй роднай мамы.

Сярод выканаўцаў, якія ўпершыню з'явіліся на цэнтральным аглядзе, былі, між іншым, калектывы «Бязмежжа» з Беластока пад кіраўніцтвам Данілы Шчурко, „Жар" добраахвотнай пажарнай каманды з Сарнак, які выканаў «Цячэ вада ў ярок», «Дамбравяцы» з Дубровы-Беластоцкай і «Тры пальцы» з Орлі, чый менеджар і гітарыст Адам Багдановіч супрацоўнічаў калісьці з блюзавай групай **«Kasa Chorych»**. Ансамбль гэта два гітарысты ў сярэдніх гадах і спявачка-студэнтка русістыкі з Універсітэта ў Беластоку, якая спявае з маленства, а цяпер яшчэ і з арлянскімі «Вэрвачкамі». Адам Багдановіч, кожны дзень інструктар у арлянскім доме культуры, вёўшы з дзецьмі драмгуртох, сказаў «Ніве» перад выступленнем:

— Наш калектыў узнік нядаўна, у гэтым складзе не іграем нават трох месяцаў. Нас двух — старыя рокмены, дзеці-кветкі. Апрацоўваем беларускія творы на рок'н'рольную ноту. Нам не хапае толькі бубнача. А на такім фестывалі проста весела. Трэба гуляць, а не напружвацца і не рабіць з гэтага чэмпіянату свету. На цэнтральны агляд мы выбралі «Сонца нізенька» з рэпертуару фальклорнага ансамбля «Арляне», і мы зрабілі гэта па-свойму: па-беларуску і ў стылі рок.

Мы дапытваліся, чаму такая назва групы:

— Каб стол стаяў роўна, трэба як мінімум тры нагі, асноўны акорд гэта тры ноты, ёсць тры слупы дзэн, праваслаўныя хрысціцца трыма пальцамі. І так можна множыць. Вось чаму.

Іншы дэбютны калектыў «Самыя зоркі» з пяці чалавек захапіў асабліва рок-фолькавым гучаннем электрычных гітар у вядомай песні «Толькі з табою». Адзін з гітарыстаў Павел Азябла расказаў нам пра групу:

— Мы граем ад чатырох гадоў. Музыкі з нашай каманды ў іншых канфігурацыях выступалі ўжо ў папярэдніх выданнях фестывалю, але пад гэтай назвай і ў такім складзе мы тут упершыню. Спяваем беларускую музыку, таму што мы з гэтай тэрыторыі, і гэта натуральна. Аранжыроўку твораў, якія мы граем, цалкам змянілі. Гэта зусім новы гук, захаваўшы пры гэтым тыя ж ноты.

Гала-канцэрт **XXI** Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2014» пачнецца 1 сакавіка ў 15 гадзін у зале Падляшскай оперы і філармоніі, па вуліцы Адэскай. Вынікі цэнтральных элімінацый **XXI** Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня» — на профілі БГКТ на фейсбуку.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# НАРОД

Ну вось і сталася. Прынёсшы вялікія і балючыя ахвяры за права быць свабоднымі і годнымі людзьмі, украінскі Майдан знёс існы рэжым. Украінскі дыктатар спешна кінуў сваю рэзідэнцыю і рвануў у невядомым ні для іншых, ні для сябе кірунку. Не хапае яму месца ва Украіне, бо на вуліцы выйшаў народ.

Яго бліжэйшыя паплечнікі таксама, кучамі і паасобку, ратуюць сябе і сваю маёмасць. Маёмасць у многіх даволі важкая, абцяжарвае і перашкаджае быць дастаткова мабільнымі ў гэтай новай і нязвыклай для іх ролі. А сітуацыя патрабуе хуткасці ды кемлівасці, ад чаго тыя даўно адвыклі па прычыне непатрэбнасці гэтых якасцей на іх нядаўніх пасадах. І нават моцныя і спартовыя байцы „Беркута" ды іншых спецпадраздзяленняў, натрэніраваныя хутка нейтралізоўваць фізічна слабейшых за сябе іншых прадстаўнікоў чалавечай расы, тэрмінова шукаюць сабе новых гаспадароў. Тыя іншыя прадстаўнікі чалавечай расы аказаліся мацнейшыя за іх у першую чаргу духам, воляй, верай і праўдай.

Ці хто мог прагназаваць такі сцэнар яшчэ зусім нядаўна? Прынамсі не былы ўжо кіраўнік Украіны. Ён адчуваў сябе надзвычай упэўнена, як усе трымальнікі поўнай улады. І стараўся паказаць гэта ўсяму свету сваёй здзеклівай і пагардлівай усмешкай, якая практычна ніколі не спаўзала з яго самаўпэўненага твару. Ну хто яго мог скінуць? Няўжо тыя людзі, на якіх ён абыякава паглядаў зверху ўніз? Ён быў упэўнены, што ніхто. Тыповы самападман дыктатараў.

Ён жа думаў, што ў яго ўсё пад кантролем. Сілавікі, высокія вайсковыя і міліцэйскія чыны, алігархі, бізнесоўцы, банкіры... Усе яны елі з яго далоняў і з яго дазволу. А таксама ў яго зброя, тэхніка і магутныя ўсходнія саюзнікі, якія зусім нядаўна ўратавалі нават сірыйскага хіміка ад амерыканцаў. Ды і яму па першай патрэбе кінулі неабходную колькасць мільярдаў у чыстай валюце. А значыць кінуць усё, што будзе патрэбна. У тым ліку і танкі.

А ўсходнія саюзнікі ўкраінскага дыктатара таксама не маглі і ў страшным сне прадбачыць таго, што адбылося. Яны ж махалі ажно пятнаццаццю мільярдамі пад носам, як яны думалі, украінскага народа! Гэта ж такі шмат! І як ім, прывыкшым усё купляць і ўсіх запалохваць, было ўцяміць, што ёсць багата людзей, якія не прадаюцца і не запалохваюцца. І вялікая частка такіх людзей жыве зусім недалёка, у суседняй Украіне. А нос, перад якім яны махалі сваімі купюрамі, аказаўся не носам украінцаў, а носам усяго толькі Януковіча і яго клана.

І іх разумныя дарадцы не змаглі своечасова папярэдзіць, што пярун ужо грымнуў, а перажагнацца не паспелі. Можа таму не паспелі, што непрывычаныя да такога рытуалу, бо каб былі прывучаны, то дыктатарскія рэжымы не ўсталёўвалі б, не падтрымлівалі б і не ўтрымлівалі б.

Ды што там іх тлустыя і лянівыя дарадцы! Тут нават сусветнавядомыя палітычныя аналітыкі ды найбольш уплывовая прэса не могуць пазбавіцца ад стану разгубленасці. Здавалася б, яны то ўжо ўсё ведаюць. Вось і расійскага кіраўніка абвясцілі самым уплывовым палітыкам года, бо ніхто не змог таго перайграць у апошні час на палітычнай карце планеты. І тут, раптам, звычайныя людзі сабраліся ў цэнтры Кіева, і разбілі ўшчэнт тэорыю палітычнай моцы начальніка Расіі. Нічога не змог ён пакуль што супрацьпаставіць цвёрдасці і адвазе звычайных патрыётаў, аб'яднаных прагай свабоды і справядлівасці.

Не могуць зразумець што адбылося і іншыя дыктатары па ўсёй планеце. Усе яны чамусьці перакананыя, што менавіта яны то найразумнейшыя і ніколі не зробяць памылак сваіх папярэднікаў. І ніяк не могуць уцяміць, што памылку зрабілі ўжо тады, калі ўладу прыбралі да сваіх рук. І што далей, пасля гэтай памылкі, ад іх ужо нічога не залежыць. Залежыць толькі, і выключна ад народа, які рана ці позна выходзіць даказаць, што ён народ. І тады сыплюцца ўсе дыктатарскія рэпрэсіўныя надбудовы, прадаюць учарашнія халуі ды служкі, адварочваюцца тыя, хто лісліва кляўся ў вернасці. Але ў небяспечны момант іх няма. Адна пустэча. А за вокнамі рэзідэнцыі бачна, як ідзе народ.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пакінуты МАЙДАН



Ні ў якім разе не прапусціць сёння ўкраінскія падзеі, якія ўскалыхнулі людзьмі па ўсім свеце. Нават у Расіі, якая не спыняе ілжывай прапаганды, паклёпнічаючай на грамадзянскую рэвалюцыю ўкраінцаў як на экспэсы ізгояў. Не ўсе расіяне даюць сябе абдурыць. Тым не менш, людзі гэта адно, а працягваючаяся над іх галовамі вялікая палітыка, гэта зусім іншае. Людзі могуць салідарызавацца з Майданам. Вялікая палітыка кіруецца іншымі мэтамі. Гаворачы без хітрыкаў: супярэчлівымі, значыць, цяжкімі для простага вырашэння палітычнымі канфліктамі інтарэсаў дзяржаў. Неабавязкова, дарэчы, дзяржаў, таму што часта стаяць за гэтай ідэяй незразумелыя, часта нелагічныя амбіцыі цынічных або атупелых палітыкаў.

На шчасце, Майдан не кіруецца палітычнай логікай. Да няшчасця палітыкі не прытрымліваюцца логікі Майдана. Гэты значны лагічны дысананс выдатна ўхапілі тэлекамеры. Хто глядзеў па тэлевізары, як польскі дэпутат Еўрапарламента Яцэк Сарыюш-Вольскі пільна абцалоўвае рукі Юліі Цімашэнкі, прыехаўшай на Майдан палётам маланкі, не можа мець сумневаў.

Для разбітай хваробай Цімашэнкі некалькі соцень кіламетраў маршрута ў Кіеў, гэта значны высілак. Але для яе гэта вартая рэч. Калі пакінула яна харкаўскую турму, адразу абвясціла, што мае намер балатавацца ў якасці кандыдата ў выбарах на прэзідэнта Украіны. А Украіна ў гэты час гэта Майдан, які трымае ўладу над эмоцыямі значнай часткі ўкраінцаў. Але якія гэта эмоцыі? Фурыя, нянавісць, гнеў, лютасць, смутак, жаль, але і велізарная радасць ад уратаванай годнасці. Той грамадзянскай, якая вызначае самасвядомы супраціў простых людзей да змарнаванай дзяржаўнасці, да карумпаванай сістэмы, глыбокай дэмаралізацыі ўсяго грамадства і жахлівай беднасці большасці. І незаслужанага багацця нямногіх.

Майдан, аднак, ведае, што былы прэзідэнт Януковіч са сваёй подлай камарыляй толькі вярхушка ледзяной гары, аб якую разбіўся ўкраінскі „Тытанік". Ён ведае таксама, што Юлія Цімашэнка ў немалой ступені спрычынілася да нацыянальнай катастрофы. Ці адпакутавала яна свае грахі мінулага? Па гэты дзень многія ўкраінцы кажуць, што януковічаўскі прысуд на яе працяглае турэмнае зняволенне (за падпісанне быццам бы шкодных для дзяржавы газавых дагавораў з Расіяй), не быў справядлівым, таму што... справядлівае пакаранне ёй павінна быць вынесена за мільённыя крадзяжы, якія яна здзейсніла ў часы Кучмы і, перш за ўсё, за здраду абяцанняў „аранжавай" рэвалюцыі.

Варта ўзгадаць, што гэта быў час абаснаванай веры мільёнаў украінцаў у гэта, што іх краіна стаіць перад вялікім шанцам цывілізацыйнага і культурнага ўключэння ў дэмакратычную Еўропу. Толькі ці Еўропа была тады гатовая дапамагчы Украіне? Ніхто, здаецца, гэтага пытання не задаваў еўрапейскім палітыкам. Нягледзячы на гэта, пратэстуючыя на тым жа што і цяпер Майдане грамадзяне даверылі свае надзеі на новую палітычную эліту, якая канчаткова іх падвяла. Ва ўсім. Занятая ўзаемным падкусваннем, кірмашом палітычных уплываў, за ўладу і ўласныя выгады, страціла сувязь з грамадствам, спыніла неабходныя рэформы і комплексную перабудову дзяржавы нагружанай дэфектамі постсавецкай спадчыны ў спраўна дзейнічаючую палітычную, гаспадарчую і грамадскую сістэму.

Юлія Цімашэнка, на якую была ўскладзена функцыя прэм'ер-міністра, падвяла найбольш, таму што найбольш паабяцала сваім суайчыннікам. Таму, калі дэпутат Еўрапарламента Сарыюш-Вольскі ў сваім выступе на Майдане аднаясначна стаў лабіраваць за Цімашэнкай, мелася ўражанне, што Майдан ніяк не разумее яго нахабнай логікі, паводле якой дыялог Еўропы з Украінай магчымы толькі праз паношаны маральна палітычны істэблішмент, чэрпаючы з мінулага „аранжавай рэвалюцыі". Такім чынам, толькі таму ветліва праплескаў прамове паляка. Падобна, дарэчы, як эмацыйнаму і пустаслоўнаму выступленню Юліі Цімашэнкі. Не ведаем, ці яна заўважыла, што аранжавы колер незаўважна ператварыўся ў чырвоны, як распырснутая кроў і, на жаль, яна пачала як згусткі крыві павольна ператварацца ў чорнае. Як самая чорная роспач. Адчай самотнага Майдана, які не знаходзіць аўтарытэтаў ані сярод украінскіх палітыкаў, ані інтэлектуалаў. Ці таксама сярод еўрапейскіх?..

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Хроніка палітычных зняволеных

У дні, у якія пачалася рэвалюцыя ва Украіне, атрымаў я кнігу: «Palitviazni.info. Хронікі беларускіх палітвязняў». Яе выдаў у Катавіцах Фонд развіцця дэмакратычных ініцыятыў, пры сумесным фінансаванні Міністэрствам замежных спраў, а па ініцыятыве арганізацыі «Вясна», лідар якой Алесь Бяляцкі да гэтага часу перабывае ў папраўчай калоніі і з'яўляецца адным з «герояў» кнігі. Гэты кластар часу, вядома, выпадак. Тым не менш, я чытаў яе ў перапынках паміж справаздачамі, а пішу пра гэта ў той час, калі на свабодзе былы прэм'ер-міністр Украіны Юлія Цімашэнка, а ўкраінскі парламент адхіліў прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча і аднавіў Канстытуцыю, якая абмяжоўвае ролю прэзідэнта ў гэтай краіне.

Кніга ўключае ў сябе біяграфіі ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі разам з апісаннем працэсаў над імі, імёны суддзяў і пракурораў. Гэта адзінае польскае выданне, якое змяшчае амаль энцыклапедычныя факты датычныя да 187 чалавек — гэта значыць, усіх тых, якіх Праваабарончы цэнтр «Вясна» прызнаў вязнямі сумлення. Гэтае выданне, праз прызму жыцця канкрэтных асоб, паказвае ўмовы жыцця пад апошняй дыктатурай у Еўропе. Апублікавана на польскай і беларускай ды польскай і англійскай мовах.

Аўтары пішуць ва ўступе: «Кніга, якую вы трымаеце ў руках, выдадзеная для распаўсюду інфармацыі ў Беларусі, каб паказаць больш за 20 гадоў незалежнай Беларусі, на аснове лёсу больш за сотні палітычных зняволеных (...). Даныя былі сабраны за апошнія 24 гады — з 1989 года, калі Рэспубліка Беларусь яшчэ не была незалежнай, да цяперашняга часу». Далей адзначана: «Крымінальны пераслед асоб, інфармацыя пра якіх змешчана на старонках, беларускімі і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі быў прызнаны палітычна матываваным. Частка спраў была напросту сфальсіфікаваная (напрыклад, справа Плошчы — пратэсты супраць падробкі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года, а таксама справа Зміцера Дашкевіча і Эдуарда Лобава, арыштаваных за дзень да тых прэзідэнцкіх выбараў). Іншыя асобы былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за парушэнне беларускага заканадаўства, якое супярэчыць міжнародным пагадненням падпісаным Рэспублікай Беларусь (напрыклад, справа «Партнэрства», справа «Маладога фронту», — людзі былі прыцягнутымі да крымінальнай адказнасці па артыкуле 193.1 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь за дзейнасць ад імя незарэгістраванай грамадскай арганізацыі, але пададзены артыкул супярэчыць артыкулу 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які сярод іншых краін падпісала і Беларусь». Аўтары ўступу нагадваюць між іншым чарговыя этапы найноўшай гісторыі Беларусі, якія характарызуюцца разнастайнасцю крымінальных спраў супраць актывістаў апазіцыі. За год першага ўзмацнення рэпрэсій лічаць1996, калі дыктатура Аляксандра Лукашэнкі ўжо пачала набіраць сілу, а наступны — 1999 год, калі тэрмін яго паўнамоцтваў падышоў да канца. На момант публікацыі кнігі дзевяць чалавек былі пазбаўлены свабоды ў Беларусі па палітычных прычынах, што — як падкрэслілі аўтары публікацыі — не абазначае, што сітуацыя з палітычнымі вязнямі палепшылася ў параўнанні з перыядам 2010-2012 гадоў, калі ў той час у нявалі ў іх было больш за шэсцьдзесят, і пасля выбараў 19 снежня 2010 у СІЗА КДБ трапіла сем з дзевяці незалежных кандыдатаў у прэзідэнты.

Выдавец кнігі, а менавіта Фонд развіцця дэмакратычных ініцыятыў, дзейнічае два гады. Яго асноўнымі мэтамі з'яўляюцца садзейнічанне культурным і мастацкім дзеянням, заахвочванне і абарона правоў і свабод чалавека, грамадзянскіх свабод, інфармацыя польскага і еўрапейскага грамадстваў аб палітычнай сітуацыі ў краінах Усходняй Еўропы, падтрымка развіцця грамадзянскай супольнасці на гэтай тэрыторыі. Як можна прачытаць на сайце фонду, яго сябры таксама хацелі б спрыяць набліжэнню народаў і дзяржаў, у прыватнасці, разнастайнасці культур і традыцый, садзейнічанне этнічным і нацыянальным меншасцям, а таксама развіваць кантакты і супрацоўніцтва паміж грамадствамі.

Кніга даступная пасля паведамлення па адрасе: szczepanska@frid.pl.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# КОНКУРС ПАВОДЛЕ НОВЫХ ПРАВІЛАЎ

У школах Беласточчыны меншае колькасць дзетак і моладзі, якія вучацца беларускай мове. Таму радуе факт, калі ў некаторых школах можна заўважыць адваротны працэс. Аднак не менш важны ад колькасці навучэнцаў узровень навучання роднай мове і намаганні зацікавіць вучняў беларускай літаратурай, культурай і нашай гісторыяй, што мае ўплыў на фармаванне нацыянальнай свядомасці моладзі.

Прадметны конкурс па беларускай мове дае магчымасць праверыць веды вучняў, якія яны здабылі ў дыдактычным працэсе і падчас пазаўрочнай працы ды паверыць іх умеласці. Сёлетнія ваяводскія элімінацыі Прадметнага конкурсу па беларускай мове для вучняў падставовых школ адбыліся 14 лютага ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім.


Лаўрэаты з Гайнаўшчыны


Удзельнікі ваяводскіх элімінацый з бельскай «тройкі»

## Не было асаблівых цяжкасцей

Вучні, якія закончылі пісаць конкурсныя тэсты, размаўлялі перадусім аб практыкаваннях. Хаця не выклікалі яны асаблівых цяжкасцей, то вучні апасаліся, што маглі зрабіць памылкі. Спаборнічала разам 19 вучняў.

— Не было праблем з практыкаваннямі, бо мы любім беларускую мову. У тэсце мы выконвалі практыкаванні па розных літаратурных творах і па граматыцы, на лічэбніках, ці дзеясловах, рабілі іншыя адкрытыя задачы. Найлягчэй было справіцца з практыкаваннем па дзеясловах, а найбольш складана было апісваць дубы, — сказалі Вікторыя Ларыса Саботка і Катажына Іванюк з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы, якія былі ў групе вучаніц, што першымі справіліся з конкурсным тэстам і выйшлі да сваіх апекуноў.

Вучні бельскай «тройкі» Юлія Банькоўская, Вераніка Семянюк, Аляксандра Пэткаў і Максім Фіёнік сказалі, што любяць заняткі беларускай мовы. У час конкурсу не было ім складана выконваць практыкаванні па літаратурных творах. Аднак не былі яны ўпэўнены ў перамозе і атрыманні звання лаўрэата прадметнага конкурсу. У школе любяць яны займацца па беларускіх вершах, апавяданнях, але і граматыка ім не страшная. Частка вучняў пісала доўга, некаторыя ўдзельнікі конкурсу займаліся з тэстам практычна да канца вызначанага часу.

— Трэба было выконваць задачы па творах Віктара Шведа і Алеся Барскага. Некаторыя практыкаванні былі цяжкаватымі, асабліва вопісныя, бо па граматыцы былі больш канкрэтнымі, — гаварыла Марта Якімюк з Падставовай школы ў Дубічах-Царкоўных. Адным вучням найбольш даспадобы конкурсныя практыкаванні, якія абапіраюцца на канкрэтныя веды па граматыцы беларускай мовы і на канкрэтныя інфармацыі па беларускай літаратуры, іншыя — рады, калі маюць магчымасць выконваць задачы, якія залежаць ад іх творчага думання. Аднак у час больш свабодных выказванняў вучні часцей робяць памылкі.

— У нас паявілася сумненне, ці мы правільна праскланялі назоўнік і прыметнік, але спадзяемся, што справіліся з гэтай задачай, — гаварылі Агнешка Саўчук і Габрыся Карбоўская з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы.

— Мае вучні ахвотна прыступалі да школьных элімінацый прадметнага конкурсу, бо тыя асобы, што ходзяць на нашыя неабавязковыя заняткі, любяць беларускую мову. Пераможцы прадметнага конкурсу па беларускай мове ўзнагароджваюцца ў нашай школе, а каб атрымаць у Гайнаўцы стыпендыю бурмістра горада не хопіць толькі выдатна вучыцца і пацвердзіць гэта сярэдняй ацэнак на школьным пасведчанні на ўзроўні крыху вышэй пяцёркі. Трэба таксама пахваліцца званнем лаўрэата прадметнага конкурсу і за гэтае званне вучні моцна змагаюцца, — заявіла настаўніца беларускай мовы з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы Людміла Грыгарук.

— Я рыхтаваў да конкурсу па беларускай мове 13 вучняў і траім з іх удалося дайсці да ваяводскіх элімінацый. Змагаюцца яны за званне лаўрэата. Вучні ахвотна прыступалі да конкурсу і мы многа займаліся пасля заняткаў, але дзеля перамогі патрэбныя таксама здольнасці вучняў, — гаварыў настаўнік беларускай мовы ў бельскай «тройцы» Андрэй Мароз.

— Я займалася з вучнямі пасля заняткаў, працуючы па матэрыяле прапанаваным для конкурсу. Мы паўтаралі матэрыял па граматыцы і літаратуры, аналізавалі вершы і апавяданні, выконвалі многа практыкаванняў. Конкурс па беларускай мове гэта вучням прэстыж, але змагаюцца яны перадусім за званне лаўрэата, а такія званні гэта таксама прэстыж для школы, — сказала віцэ-дырэктар нараўчанскай школы і заадно настаўніца беларускай мовы Ліля Тарасевіч.

— Падчас конкурсу была ў нас нагода праверыць свае веды і ўмеласці, а паяўляліся таксама цяжкасці з некаторымі практыкаваннямі, — сказалі Аляксандра Салавянюк, Аляксандр Семянюк і Агнешка Зданоўская з Непублічнай падставовай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

— Вучням важны конкурс па беларускай мове, але перадусім трэба іх зацікавіць нашымі неабавязковымі заняткамі, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Падставовай школе № 4 у Беластоку Аліна Ваўранюк. Яе вучаніцы Барбара Лук'янюк, Анна Рута Карнілюк і Зося Конюх выявілі надзею, што станоўча справіліся з адкрытымі практыкаваннямі па беларускай мове і адкрытымі задачамі па выбраных творах беларускай літаратуры.

## Менш лаўрэатаў, чым у мінулых гадах

Засталося вучням чакаць вынікаў адукацыйных спаборніцтваў. Удзельнікі конкурсу не скрывалі, што прыступілі да яго разлічваючы на званне лаўрэата ваяводскіх элімінацый. Аднак у гэтым годзе прадметныя конкурсы адбываюцца паводле новых правілаў, што ў выпадку прадметных конкурсаў арганізаваных па мовах нацыянальных меншасцей абмяжоўвае колькасць асоб, якія могуць стаць лаўрэатамі.

— Калі да школьных элімінацый нейкага прадметнага конкурсу прыступіць многа асоб, гэта дае магчымасць даць званне лаўрэата ваяводскіх элімінацый нават для большай колькасці вучняў, чым бывала ў мінулых гадах. Лаўрэатамі конкурсу можа стаць 7% асоб ад агульнага ліку ўдзельнікаў школьных элімінацый. Калі да конкурсу па беларускай мове прыступіла на школьным узроўні 117 удзельнікаў, мы можам даць званне лаўрэата толькі для 9 вучняў. Аднак у выпадку, калі больш асоб будзе мець такую самую колькасць балаў як дзевятая асоба, можам павялічыць колькасць лаўрэатаў конкурсу, — заявіў пасля завяршэння конкурсу старшыня камісіі, настаўнік беларускай мовы ў бельскай «тройцы» Яраслаў Падолец.

Пасля праверкі работ і падвядзення вынікаў конкурсу аказалася, што можна было пакарыстацца прывілеяй, аб якой сказаў старшыня камісіі і лаўрэатамі стала 14 асоб. 5 вучняў сталі фіналістамі ваяводскіх элімінацый, бо здабылі прынамсі 30% магчымых для атрымання балаў. Паводле старых правілаў фіналістам станавілася кожная асоба, што толькі прыступіла да ваяводскага этапу конкурсу. Максімальную колькасць 100 балаў здабыла Вікторыя Ларыса Саботка, на другім месцы апынулася Катажына Іванюк з 99 баламі, а на трэцім Наталля Леанюк з 97 баламі, усе з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы, якіх рыхтавала да конкурсу настаўніца Марыя Крук. На чацвёртым месцы аказаліся Юлія Банькоўская і Вераніка Семянюк з бельскай «тройкі» (здабылі па 96 балаў), якіх рыхтаваў да конкурсу настаўнік Андрэй Мароз. Пятае месца з 94 баламі занялі Марта Якімюк са школы ў Дубічах-Царкоўных (настаўніца Марыя Казімірук) і Барбара Лук'янюк з Падставовай школы № 4 у Беластоку (настаўніца Аліна Ваўранюк). Астатнія лаўрэаты здабылі па 87 балаў. Найбольш — бо пяць — вучняў з бельскай «тройкі» сталі лаўрэатамі конкурсу. Лаўрэатамі сталі яшчэ трое ўдзельнікаў ваяводскіх элімінацый з гайнаўскай «тройкі», двое з гайнаўскай «шасцёркі» і па адным вучні са школы ў Нараўцы і Непублічнай падставовай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

— Частка вучняў да канца выкарыстала паўтары гадзіны, адведзеныя на працу з тэстам, і хаця б па гэтай прычыне можна сказаць, што конкурсныя практыкаванні не былі простымі. З ліку настаўнікаў Андрэй Мароз і Марыя Крук дабіліся самых вялікіх поспехаў, бо аж на трох іх вучняў сталі лаўрэатамі конкурсу. Калі ў будучыні конкурс будзе праходзіць паводле тых самых правілаў, як сёлета, я прапаную настаўнікам беларускай мовы, каб намагаліся як мага найбольш вучняў заахвоціць да ўдзелу ў школьных элімінацыях, бо тады большай колькасці ўдзельнікаў можна будзе прысвоіць званне лаўрэата, — сказаў пасля завяршэння працы конкурснай камісіі яе старшыня Яраслаў Падолец.

Напомню, што да мінулагодніх ваяводскіх элімінацый Прадметнага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага для вучняў падставовых школ, прыступіла ажно 34 вучні з 9 школ і ўсе яны набралі прынамсі 80% магчымых да здабыцця балаў (такія былі патрабаванні) і сталі лаўрэатамі ваяводскіх элімінацый.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Больш шырокіх вуліц

У Беластоку ўжо прыступілі да перабудовы дзвюх вуліц Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. Пры вуліцы Вярбовай сякуць прыдарожныя ліставыя дрэвы (сярод іх ёсць і спарахнелыя). Многа іх — больш за сотню. Трапляюцца таксама фруктовыя з прысядзібных садкоў. Тут будзе пабудавана другая маставая, тратуары і веласіпедныя дарожкі, а таксама прыстрэшкі на аўтобусных прыпынках.

У рамках інвестыцыі пабудуюць яшчэ новую кладку для пешаходаў з вуліцы Грунвальдскай да парку Антонюк цераз рачулку Белую.

— Мадэрнізацыя вуліцы Вярбовай будзе каштаваць каля дванаццаці мільёнаў злотых — праінфармаваў Януш Астроўскі, дырэктар Праўлення дарог і гарадскіх інвестыцый. — Пасля перабудовы вуліцы Вярбовай лёгка будзе пераехаць з вуліцы Незалежнасці да вуліцы генерала Мачка.

Чатыры паласы руху запланавалі на вуліцы Канстытуцыі 3 Мая. Тут таксама ссякуць больш дзесяці дэкаратыўных дрэў. Ужо ліквідавалі малыя крамкі каля скрыжавання вуліц Канстытуцыі 3 Мая і Фабрычны Антонюк. Апрача новых маставых пабудуюць новыя тратуары і веласіпедныя дарожкі. Мадэрнізацыя вышэйзгаданай вуліцы будзе каштаваць восем мільёнаў злотых.

Сумесна з перабудовай вуліцы Канстытуцыі 3 Мая будзе пашыраны фрагмент вуліцы Берлінга ад вуліцы Фабрычны Антонюк да вуліцы св. Казіміра. Працы закончаць восенню гэтага года.

Беластоцкі магістрат запланаваў да вясенніх рамонтаў маставыя на вуліцах у цэнтры і на перыферыі горада: Гарохавай, Паркавай, Сабескага, Школьнай, Лагоднай, Пралетарыяцкай, Пуласкага, Асныка і Электрычнай.

Рамонту чакаюць ухабістыя гарадскія тратуары на вуліцах, між іншым, Далістоўскай, Дворскай, Кракаўскай, Блокавай, Пальмавай, Свабоднай, Упальнай і Рэйманта.

## Пачалі збіраць лекавыя расліны

Ужо ў лютым гэтага года некаторыя жыхары вёсак Нараўчанскай гміны пачалі збіраць лекавыя расліны.

На пункт скупкі зёлак гайнаўскай суполкі „Руно” ў Плянце збіральнікі прыносяць кару крушыны, шышкі вольхі і ягады ядлоўцу. За кілаграм ягад ядлоўцу можна зарабіць 10 злотых ды шышак вольхі — 4,50 зл. За кілаграм кары крушыны плацяць 4 злоты.

Вясной, якая прыйдзе да нас неўзабаве, можна будзе збіраць пупышкі таполі ды сасны. За тапалевы пупышкі можна будзе зарабіць 10 злотых і за сасновыя — 14 злотых.

Калі збярэм шмат лекавых раслін, на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў, смакавітых сіропаў (вось хаця б вітамінізіраваных сіропаў з сасновых пупышак) ды прыправаў для страў.

**(яц)**

# Стратэгія — шанц на развіццё

Пра падвядзенне вынікаў прац па „Стратэгіі развіцця беларускай асветы” мы папрасілі **Барбару Пякарскую**, старшыню асветнага аб’яднання АБ-БА, адказнай ад беларускага боку за падрыхтоўку дакумента.

**„Ніва”: — У якім настроі ўспрымаеце завяршэнне падрыхтоўчага этапу „Стратэгіі развіцця беларускай асветы”?**

Барбара Пякарская: — Сёння настрой ужо спакойны. Мы ведалі, што гэта завяршэнне, што вялікіх тут змен ці рэвалюцыі не будзе. Цягам амаль двух гадоў на сустрэчах у працоўных групах мы столькі ўжо разоў прачытвалі праект дакумента, столькі гаварылі і задумваліся над кожным радком ці словам, дык ведалі, што сёння нас чакае фармальнае падвядзенне вынікаў.

**Н: — Што зменіць з’яўленне такога дакумента, якія будуць карысці для беларускай меншасці?**

БП: — Я спадзяюся, што гэта памяняе на лепшае сітуацыю ў беларускай асвеце. Хоць скажу так — я няўпэўненая ў гэтым абсалютна. Справа ў тым, што зацікаўленне з боку самаўрадаў, каб сустракацца і супольна вырашаць пытанні ў працоўнай групе, на жаль, было вельмі малое. Праўда, спачатку некаторыя прадстаўнікі самаўрадаў заявілі такую ахвоту, аднак, калі гаварыць пра само ўдзельніцтва, яго практычна не было. Як вядома, рэальнае развіццё асветы, без ангажаванасці самаўрадаў, амаль немагчымае. Мы пісалі гэты дакумент, каб папраўляць форму беларускай асветы, каб адкрыць новыя магчымасці для беларускай мовы і адначасова для грамадства.

**Н: — Вы на пасяджэнні сказалі, што гэты дакумент — кампраміс паміж жаданнямі і марамі беларусаў і прапановамі з боку ўрада. Які пастулат з нашага боку, запісаны ўжо ў стратэгію, лічыце самым вялікім поспехам?**

БП: — Для нашага асяроддзя вельмі важна, каб настаўнікамі або дырэктарамі школ, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы, былі людзі неабыякавыя да мовы. Каб у гэтай справе быў голас з боку меншасці. Напрыклад, каб у камісіі, якая ацэньвае дырэктара, быў наш чалавек, які паставіць пытанні кшталту: „А якія ў вас планы і думкі адносна навучання беларускай мове? Як бы вы хацелі працаваць, каб таксама працаваць у карысць беларускай мовы?”.

Удалося нам таксама занесці ў дакумент запіс, каб мы як меншасць, мелі голас у справе ацэнкі працы настаўнікаў. Мы ведаем, што мову меншасці можа вучыць чалавек, у якога сэрца да гэтага. Ён абавязаны перадаць не толькі веды, але і любоў да роднага. Нам, як меншасці, хацелася б мець уплыў на тое, хто навучае нашых дзяцей.

**Н: — Вы — па прафесіі лекар. У працоўнай групе Вы наогул займаліся з настаўнікамі. Скажыце, якія ў вас уражанні ад супрацоўніцтва?**

БП: — Якраз тут мы супрацоўнічалі з вельмі актыўнымі настаўнікамі, таму ў мяне вельмі добрыя ўражанні. Таксама, як аб’яднанне АБ-БА, ладзім майстар-класы для настаўнікаў. Там таксама прыязджаюць больш актыўныя настаўнікі. Таму я магу сказаць адно — у працы над апрацоўкай стратэгіі ангажаваўся цвет настаўнікаў. І я абсалютна пад станоўчым уражаннем.



Злева: Славамір Іванюк, Барбара Пякарская, Аліна Ваўранюк

**Н: — Значыць, беларускае школьніцтва мае шанц на крэатыўны працяг?**

БП — Вядома, мае. Мы самі, каб не верылі што гэта мае сэнс і значэнне ў будучыні, не ўзялі б на сябе столькі грамадскай, цяжкай працы. Не сустракаліся б у выхадныя, у свабодны ад працы час. Як аб’яднанне, мы гэта разумеем. І з поўнай адказнасцю працягваем гэта, таму што нехта павінен гэта рабіць. Тут асаблівую падзяку кірую ў адрас дырэктара Бельскага белліцэя Андрэя Сцепанюка і Славаміра Іванюка з Беларускага гістарычнага таварыства, якія на маю думку, уклалі найбольш працы.

## Падвесці вынікі працы па стратэгіі мы папрасілі таксама Андрэя Сцепанюка:

**Н: — Першы, галоўны этап завяршыўся. У вас адчуванне недахопу ці здзяйснення?**

АС: — Зразумела, у мяне адчуванне здзейсненасці. Хачу найперш сказаць, што мне вельмі добра працавалася з маімі сябрамі, асабліва з тымі, якія ўдзельнічалі ў працоўнай групе. Гэта былі людзі, якія прадстаўлялі беларускія арганізацыі, беларускае школьніцтва. Праўду сказаўшы, мы ведаем адзін аднаго многія гады. Аднак цяпер, калі амаль два гады спакойна сабе працавалі, мы больш выразна пабачылі супольныя мэты і патрэбу сустракацца ў будучыні. Мы разумеем патрэбу далейшай выпрацоўкі нашых пастулатаў.

Другая справа — цешуся, што такі дакумент узнік. Бо сорамна ўжо было, што ўсе меншасці маюць сваю стратэгію, а беларусы — не. Гэта, папраўдзе, вялікая заслуга аб’яднання АБ-БА, якое выйшла з прапановай напісаць дакумент, усіх нас сабрала і давяло справу да канца.

Па-трэцяе — мы ведаем, што гэта пачатак дарогі. Будзем глядзець як яна рэалізуецца, магчыма будзе патрэба яе мадэрнізаваць і мадыфікаваць. Думаю, што варта было прысвяціць свой час, каб працаваць над развіццём гэтага дакумента.

**Н. — Ці пра пастулаты Вы размаўлялі са сваімі настаўнікамі, а калі так, як яны ўспрынялі такую ініцыятыву?**

АС: — Я думаю, што калі праца знаходзіцца на этапе пошукаў і распрацоўкі, не трэба пра ўсё дакладваць, распаўсюджваць. Зараз, калі дакумент будзе падпісаны ўрадам, я распавяду пра сутнасць справы настаўнікам і змяшчу дакумент на сайце школы. Хай кожны, хто зацікаўлены, ім карыстаецца. Гэта мой абавязак і мая роля.

**Н: — Як бачыце ў перспектыве супрацоўніцтва з самаўрадамі?**

АС: — Дай Бог, каб яны зразумелі, што мы — частка польскай асветы і ў нас такія самыя правы як у іншых, што за намі юрыдычныя законы, што яны нас абараняюць.

**Н: — Які пастулат, запісаны ў стратэгію, Вас найбольш абнадзейвае?**

АС: — Усе, бо яны даюць шанс на развіццё. Не трэба будзе ўжо бегаць па людзях і ўстановах, каб выдаць новы падручнік. Я асабіста вельмі чакаю падручніка па гісторыі. Добра, каб такі падручнік быў, каб ім карысталіся не толькі нашыя школы, але і ўсе тыя, хто зацікаўлены гісторыяй беларусаў Падляшша.

**Ад рэдакцыі:** У н-ры 8 „Нівы” ў артыкуле „Запісалі стратэгію для беларускай асветы” не былі пералічаны пасобку ўсе арганізацыі, якія далі паўнамоцтвы для каардынацыі дзеянняў па рэалізацыі асноўных палажэнняў „Стратэгіі” Аб’яднанню АБ-БА. Вось яны:

1. Беларускі саюз у РП
2. Таварыства беларускай культуры
3. Беларускае грамадска-культурнае таварыства
4. Шчыты — Звяз у карысць адукацыі і прамоцы беларускай культуры
5. Беларускае асветнае таварыства
6. Фонд „Віла Сакрата”

**(рэд.)**

# Тады ўсе жылі як адзін

**Яўген Дамброўскі нарадзіўся ў Крынках у 1938 годзе. Калі пачалася нямецка-савецкая вайна, яму было толькі тры годзікі. Пра даваенныя часы ведае ён многа перадусім з аповедаў свайго бацькі Аляксандра.**

Сям'я Дамброўскіх, так як і большасць крынчан, да вайны бедавала. Жылі яны, у асноўным, з паслуг аказваных жыдоўскім жыхарам мястэчка.

— Мой бацька балаголіў, — распавядае спадар Яўген. — Вазіў канём прадукты на заказ уласнікам мясцовых крамаў і гарбарняў. За таварам адпраўляўся, між іншым, у Гародню, Індуру і Беласток. На Гродзенскай вуліцы было двух пастаянных балагулаў (фурманоў) — бацька Аляксандр і Павел Піцэвіч. Прадпрымальнікі клікалі іх днём і ўначы, незалежна ад надвор'я ці пары года. У яўрэяў таксама былі свае коні, — тлумачыць спадар Яўген, — але не вельмі хацелася ім куды-небудзь ехаць, тым больш за бутлямі з небяспечнай сернай кіслатой. Не хацелі яны і зямлі абрабляць, значыць па-іхняму, мець гандаль з Богам. Добра помню ўваход немцаў у Крынкі, — працягвае аповед спадар Яўген. — Якраз я з бацькам, маткай і сястрой сядзелі пад грушай. Неба стала чорнае ад лятучых па ім самалётаў, а я не ведаў што гэта такое.

Немец прынёс яшчэ больш бяды ў і так бедныя Крынкі. Праз яго памерла, між іншым, маці тады чатырохгадовага Жэніка. Яна захварэла на туберкулёз. На лячэнне ездзіла ў Жукевічы, якія цяпер знаходзяцца па другім боку мяжы. Неўзабаве акупант забіў усіх жукевіцкіх урачоў — і жыдоўскіх, і хрысціянскіх. Бацька Жэніка не мог паверыць у гэтае здарэнне. Усё роўна запрог каня, каб завезці туды маму. Але прапалі дактары, а разам з імі і надзея на аздараўленне жанчыны.

— У Крынках стварылі гета. Жыд Наско з Гродзенскай вуліцы як туды адпраўляўся, хацеў перапісаць хату для майго бацькі, — распавядае спадар Яўген. — Той адмовіўся, бо баяўся, што настроіць супраць сябе немцаў, што заб'юць.

Жэнік з сястрою перакідвалі курэй зняволеным. Пасылаў іх туды бацька Аляксандр.

— Стары чалавек не пойдзе іх праз плот перакідваць, — аб'ясняе спадар Яўген. — Гэта было на Каляды. Заглядаем у вокны жандармерыі, а там ёлка. Мы нават не ведалі што значыць тая ёлка, ніколі раней не бачылі такога. Тут немец з'явіўся. Мы сталі ўцякаць. Камісар за намі ў пагоню з вялікім сабакам.



Ён да нас: „Гальт, гальт”. Мы запыніліся. Чуем, кліча нас па-свойму: „Ком, ком”. Камісар завёў нас у сярэдзіну будынка жандармерыі. Зайшлі ў сені, ён скруціў з паперы ражкі і ўсыпаў у іх трохі цукру. Нас было чацвярых. Кожнаму даў такі ражок і адпусціў дахаты. Ой, задаволеныя мы былі з таго цукру.

Спадар Яўген бачыў як жыдоў вывозілі з гета.

— Шэсцьдзесят метраў ад нашай хаты быў адзін з пераходаў, — успамінае ён. — Я хадзіў туды, узіраўся. Садзілі іх на фурманкі пад наглядам паліцыянтаў з гумавымі палкамі і сабакамі. Яны толькі падскаквалі, каб пазбегнуць ударaў гумай. Выглядала гэта дастаткова пацешна, таму і мы, і паліцыянты смяяліся. Пацярпелых везлі па Гродзенскай вуліцы ў напрамку Гародні. Што далей з імі сталася не ведаю, напэўна іх спалілі.

Толькі некаторым яўрэям удалося перажыць ваенны кашмар.

— Тут, недалёка ад нас, сястра Костка Руткоўскага двух мужчын і жанчыну ў коміне трымала. І на Плянтанскай у Бяганскага людзі хаваліся. Было страшна, паліцыянты пільнавалі. На службе ў немцаў былі і нашыя, крынскія. Калі немцы ўжо адышлі, то адна выратаваная жыдоўка, убачыўшы былога паліцыянта, запытала: „Казік, ты яшчэ жывеш?” І зараз далажыла на яго. Казіка дзесьці забралі і так ён прапаў. Жонка яго хадзіла па Крынках, збірала подпісы, што ён нічога кепскага не зрабіў. Але ніхто не хацеў падпісацца. Казіка ўжо ніколі не знайшла. Людзі казалі, што Бяганскага з сям'ёй жыды добра ўзнагародзілі. Цэлую сям'ю забралі ў Гданьск. Купілі яму хату, дзяцей вывучылі на дактароў. Нашыя калісь не зайздросцілі. Ні Руткоўскім, ні Бяганскім ніхто па гэтай прычыне не дакучаў. Тады ўсе жылі як адзін. Гэта цяпер дзеляцца на католікаў, ці праваслаўных.

Жыды хацелі, каб нашыя — гоі — рабілі на іх. Але ж і цяпер тое самае, а мо нават і горш. Тады, не меўшы грошай, можна было пазычыць ці зарабіць у іх. А цяпер дзе заробіш? Тут дзе цяпер лес на канцы Крынак, у напрамку на Крушыняны, былі Казіныя Горы. Там яўрэі трымалі кароў і коз для малака. Людзям давалі зарабіць, купляючы збожжа і асыпку жывёле. А яшчэ нашыя бабы і мужчыны сушылі ім шэрсць з гарбарняў на шчоткі. За тое плацілі ім па залатоўцы. Нават і па вайне скуплялі тую шэрсць. За конскі хвост можна было купіць дзве пары штаноў-дрэліхаў, а цяпер... Нікому нішто непатрэбнае — ці гэта авечая або цялячая шкура, ці конскі хвост. Нішто нікому непатрэбнае, — кажа Яўген Дамброўскі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



## Дубы-волаты ўсіх захапляюць

Магутнымі прыгожымі дубамі можна захапляцца. Вельмі часта іх малявалі вядомыя ў свеце жывапісцы. Малююць іх і нашыя гайнаўскія мастакі. Карціны з дубамі ў полі, побач лясных пясчаных дарог або на крутым беразе ракі вельмі ахвотна купляюць далёкія і блізкія замежнікі, а таксама жыхары айчынных гарадоў у свае кватэры. Дубы цешаць нас сваёй прыгажосцю і магутнасцю. У лясах Белавежскай пушчы сустрэнем легендарныя калосы.

Каралеўская сям'я з дваццаццю дубамі знаходзіцца ў Старой Белавежы. Гістарычна-прыродазнаўчую сцяжыну „Шлях каралеўскіх дубоў” заснавалі захоплены Белавежскай пушчай ляснічы Яцэк Высмулэк з Белавежы. Цікавае гэтае месца са зборышчам гэтай шляхетнай пароды ліставых дрэў — адзінае такое ва ўсёй Еўропе! Пра яго трэба дбаць, высякаць зараснікі — маладыя елкі, грабы і бярозы. Дубам патрэбна вада, а яе выпівае гушчар. Апошнім часам былі сухія леты і дубам стала замала вільгаці. Яны павольна паміраюць. Ад старасці таксама. І трэба з гэтым мірыцца, натуры не пераможам.

Дубы-волаты растуць ва ўрочышчы Вілы, там дзе прытокі Брашча і Гвозьна ўліваюцца ў павольную лясную рэчку Нараўку. Дубнячкі варожаць вокаў Свінарохі і ў высокім лесе паміж Свінаровамі і Скупавам, на прыгожай ускраіне лесу каля Пераходаў і Звадзецкіх, ля дарогі каля Гнільца, каля вёсак Крыніца і Капітаншчына, ля пушчанскай дарогі-гравейкі з Бярнадскага Маста ў Барысаўку ды паасобныя дрэвы ў Плянце (паабапал чыгункі з Гайнаўкі ў Семяноўку) і ў Нараўцы (перад царквой).

На тэрыторыі Гайнаўскага павета разгалінастыя дубы, якім некалькі соцень гадоў, цешаць нас сваёй спакойнай прысутнасцю і магутнасцю каля Падваськоў, Смолянага Садка, Ліпін, Арэшкава і Лазіц, якія на ўскраіне лесу, ды за вёскай Пасталова (яна распаложаная непадалёк ад Дубін і каля Гайнаўкі), а таксама пры дарозе з Гайнаўкі ў Белавежу.

Гайнаўка цесна спалучана з Белавежскай пушчай. У гэтым горадзе таксама захаваліся прыгожыя з тоўстымі галінамі дубы пры вуліцах Белавежскай, Паркавай, 3 Мая, Пілсудскага, Арміі Краёвай і Дзевятоўскага ды ў гарадскім парку. Яны асабліва прыгожыя з лісцем вясной, летам і восенню.

## У Беластоку ўсё прыгажэй

У Беластоку аднаўляюць камяніцы, шматпавярховыя жылыя будынкі і вуліцы. У мінулым годзе аднавілі шэраг камяніц пры алеі Пілсудскага, вуліцы Заменгофа, Новы Свет, Легіяновай, Міцкевіча, Васількаўскай і Сянкевіча. Атрымалі яны, між іншым, новыя дахі і фасады.

Шмат інвеставалі ў выгляд будынкаў уладальнікі дамоў пры Рынку Касцюшкі і Ліпавай. Рамонт выконвалі пад наглядам спецыялістаў-захавальнікаў. Важна было, каб аднолькавыя дамы мелі эстэтычны выгляд, правільную каларытнасць ды ранейшыя дэкаратыўныя дэталі.

Папрыгажэў Беласток у раёне вуліц Каліноўскага, Млыновай, Прыгожай і Кіеўскай. Цяпер тут ужо пабудавалі прыгожыя будынкі і новыя артэрыі. На вуліцах у цэнтры горада маем найлепшыя роўныя тратуары ды прыгожыя прыстрэшкі на аўтобусных прыпынках гарадской камунікацыі. А яшчэ не так даўно на вуліцы Млыновай, Кіеўскай, Сталічнай (Столэчнай) і Сукеннай быў брук з палявога каменя.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Беларуская дыктоўка як найлепшы конкурс!

— Што Вы такое зрабілі, што аж 46 вучняў вашай школы прыняло ўдзел у беларускай дыктоўцы? Гэта больш за палову вучняў усяе школы.

— Абсалютна мы нічога спецыяльнага не прыдумвалі, — кажа Іаанна Марко. — Дзеці вельмі хацелі пісаць, нават тыя маленькія, з другога класа. На ўроках яны прасілі мяне, каб да дыктоўкі засвоіць усе літаркі. Старэйшыя пыталі ўжо ад верасня...

21 лютага — Міжнародны дзень роднай мовы. Сёлета ён праходзіў пад лозунгам правільнай арфаграфіі, карэктнага пісання і маўлення на роднай мове. У Беларусі дзень роднай мовы праводзіцца сёмы раз, у Беластоку — другі. Гэтую традыцыю запачаткавала ў нас Іаанна Марко, настаўніца беларускай мовы ў Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Удзельнікі былі падзелены на тры ўзроставыя групы.

— Дзеці з другога класа перажывалі, што слаба ведаюць мову, і яны не ў змозе выйграць са старэйшымі, — адзначае спадарыня Іаанна, — таму мы падрыхтавалі тры тэксты, дапасаваныя да ўзросту і магчымасцей вучняў.




Наймалодшыя — вучні другога і трэцяга класаў (іх было аж 12) — пісалі фрагмент казкі Алены Анішэўскай „Як свінка ваўка перахітрыла”. Іх старэйшыя сябры мелі за задачу напісаць дыктоўку, тэкстам якой было апавяданне Сакрата Яновіча „Роднае слова”. Гімназісты, у сваю чаргу, пісалі фрагмент апавядання Георгія Валкавыцкага „Каменны круг” з тома „Белая вязь”. У такі спосаб яны адзначылі гадавіну смерці траіх „белавежцаў”.

— А ці гэта паўплывае на цікавасць да беларускай літаратуры?

Настаўніца ў адказ ставіць прыклад:

— Нядаўна мы чыталі легенды Міколы Гайдука. Пасля на перапынку дзеці навыперадкі пабеглі ў бібліятэку, каб пазычыць кніжку гэтага аўтара. Усё, што датычыць нашых зямель, асабліва калі гэта запісана ў выглядзе легенды, ім цікава. А ўжо найбольш, калі тыя легенды ўмеюць напалохаць, правучыць...



Разам з нацыянальнай дыктоўкай у школе праходзіла мультыпрэзентацыя на тэму нацыянальных меншасцей у рэгіёне. Урок наладзіла настаўніца гісторыі Анна Жмудзінская. Як аказалася, спрацавала добрая выпадковасць — даклад, згодна з планам, меў адбыцца раней.




Таксама пашанцавала з залай. Дзве групы пісалі дыктоўку ў новай часоўні, арганізаванай паводле архітэктурнага праекта мастачкі Таццяны Місіюк. У першым радку, сярод удзельнікаў беларускай дыктоўкі, мы прыкмецілі яе дачушку Ніну.

Трэба дадаць, што добрым духам свята былі журналісткі беларускіх медыяў: Ганна Мордань, Уршуля Шубзда, Анна Пятроўская і ніжэйпадпісаная. У ролі лектара цудоўна справілася Ганна Мордань, а „Ніва” і Радыё Рацыя выступілі ў ролі медыйных патронаў.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

## Што думаю пра беларускую мову

Пасля дыктоўкі вучні чацвёртага, пятага і шостага класаў падзяліліся гарачымі яшчэ ўражаннямі. Нашы сябры пісалі дыктоўку, тэкстам для якой была мініяцюра Сакрата Яновіча пад загалоўкам „Роднае слова”.

**„Зорка”**: — Як адным словам можна сказаць пра дыктоўку?

**Куба:** — Яна была такая... паважная.

**Зузя:** — Цікавая, таму што пра Беларусь.

**Куба:** — І пра вайну...

**„Зорка”**: — Значыць, страшная?

**Мілаш:** — Ну, не зусім страшная, толькі напамінала што не заўсёды добра жыць.

**Марыся:** — Крыху мяшала хваляванне. Але пісалася лёгка.

**„Зорка”:** — Будзеце чытаць кніжкі Сакрата Яновіча?

**Усе:** — ТААААААAК!!!

Удзельнікі дыктоўкі сказалі таксама як яны самі ўспрымаюць беларускую мову.

**Марыся:** — Беларуская мова такая... прыгожая!

**Мілаш:** — Прыгожая і лёгкая...

**Сярожа:** — У ёй адчуваецца музыка.

**Зузя:** — Прыгожая і такая чыстая.

**Куба:** — І сама завучваецца, такая лёгкая, што не трэба многа вучыцца.

# Найлепш напісалі...

Нацыянальная дыктоўка была праведзена ў форме конкурсу. З ліку 46 удзельнікаў былі вылучаны лаўрэаты. Яны атрымалі ганаровыя беларускія граматы, кніжныя ўзнагароды ды падарункі ад Радыё Рацыя, „Нівы" і сваёй школы. Як год раней, рэдакцыя „Нівы" назначыла дзве гадавыя падпіскі лаўрэатам першых месцаў.

А вось і прозвішчы лаўрэатаў.

У катэгорыі **класаў II-III** перамагла **Аляксандра Паўлючык**, другім быў **Артур Гардзіенка**, трэцяй — **Алеся Буткевіч**. Вылучэнні атрымалі **Ніна Місіюк** і **Іван Корсунскі**. Усе вучні другога класа атрымалі ўзнагароды за адвагу і энтузіязм.

У катэгорыі **класаў IV-VI** першай была **Вікторыя Кардзюкевіч**, другое месца заваяваў **Тамаш Федарчук**, трэцяе месца заняла **Аляксандра Салавянюк**. Вылучэнне атрымала **Агнешка Здановская.**

**У гімназіі** дыктоўку найлепш напісаў **Матэвуш Навумюк**, другой была **Дамініка Благушэўская**, на трэцім месцы апынуўся **Міхась Сахарчук.**

Усе сябры заявілі жаданне пісаць беларускую дыктоўку праз год.



# Як узнікла вёска Бяндзюга?

Даўным-даўно да вёскі, якая ляжала ля рэкі Нарвы, прыехала старшынства. Пачало яно звозіць дрэва з пушчы і ўкладаць яго на беразе ракі. Пасля гэтае дрэва вязалі ў плыты і адпраўлялі ракой у Тыкоцін, а пасля ў Гданьск.

З гэтага часу вёску пачалі называць „Біндуга", далей яна існавала як „Біндзюга", а з 1988 года вёску сталі называць „Беньдзюга".

**Юліта Грыка,**
**II кл. Гімназіі ў Міхалове**

PS. У загалоўку мы падаем назву на беларускай літаратурнай мове.

## Вершы Віктара Шведа

### Санітарны кантроль

Афіцыянт рэстарана
Падышоў да нейкага пана:
— Ці маглі б Вы нарэшце
Гэтую рыбку з'есці?

— Калі няма сакрэту,
Чаму тут поспех гэты?
— А гэта ўжо наш боль,
Маем санітарны кантроль.

### Ці не нудная праца?

— Дзе ты працуеш?
— На пошце, вядома,
Лісты там штэмпялюю
Штодзённа да стомы.

— Дык праца праходзіць
Не нудная надта?
— На штэмплі штодзень
Мяняецца дата.

## Размова з Іванкам Корсунскім

*— адным з наймалодшых удзельнікаў нацыянальнай дыктоўкі.*

**„Зорка"**: — Ці спадабалася Табе казка Алены Анішэўскай пад загалоўкам „Як свінка ваўка перахітрыла"?

**ІК:** — Вельмі падабалася. Я адзін раз яе чытаў, калі быў на радзіме, у Беларусі.

**З:** — А дзе Ты дастаў кніжку Алены Анішэўскай?

**ІК:** — Купіў яе ў кніжным магазіне ў Мінску.

**З:** — Ну і як, на Тваю думку, гэтая свінка — яна разумніца?

**ІК:** — Так, яна харошая.

**З:** — Але ж яна не паслухалася гаспадыні, пайшла ў лес, дзе жыве воўк. А Ты сам, каб бацькі загадалі не ісці далёка, паглыбіўся б у цёмны лес дзе ваўкі?

**ІК:** — Не, не пайшоў бы, я паслухаў бы бацькоў.

**З:** — А скажы, Іванку, ці дыктоўка не была для цябе складанай?

**ІК:** — Не, толькі я памыліўся і пакрэсіліў некалькі літарак.

**З:** — Маю надзею, што гэта не пашкодзіць. Малайчына Ты, віншуем Цябе і тваіх сяброў.

## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 9-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 9 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Не на дрэве,
не ў кустах
пасяліўся шэры птах —
ён жыве ў полі,
дзе прастору болей.
К сонцу падымаецца —
Песняй заліваецца.
ж......

**2.**
Шукае капелькі,
каб трохі пажывіцца.
в.....

**3.**
І няўклюда
і санлівая
маруда.
І заўсёды недзе ідзе
з цэлай хаткай на спіне
ч.......

**Адказ, на загадкі № 6: лёд, сняжынкі, снег, елка.**

**Узнагароды, пісьмовыя наборы, выйгралі Аня Свіцкая і Якуб Сярадзкі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

## № 9 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеенымі кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5:**

Нюх, сяло, спадар, тур, дуга, пад, інак, качан, пугач, парада, санкі, пяро, на, ар, поліўка.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Аляксандра Пэткаў** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Наталля Васько**, **Алек Чарнецкі**, **Вікторыя Барэчка** з Нараўкі, **Юлія Чабан**, **Паўліна Банасюк** з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Jawa / Chrom | Cel | | Fan | Kurs | | Baryton / Podarek | |
| | Jądro | Chmurka / Chrust | | | | | | | As | |
| | Chrzan | | | | | Rząd | | | | |
| | Usta / Go | | | | Nos | Kreska | | | | |
| Huma-nista | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | Oda | | | |
| Nos | Trasa | | | | | | | | | |




Сцяпан КАРБОЎСКІ, Гайнаўка

# ЗДРАДА... ЛЕПШЫ „ЖАБАЕД”

Нечакана, як гавораць людзі, атрымаў я пісьмо ў чацвер і астаўся сам адзін з блізнюкамі. Іх маці, а мая верная жонка... закахалася па вушы! У нейкім „жабаедзе”, які ў Іспаніі збіраў трускалкі. Акурат там, дзе і яна ад трох месяцаў зарабляла на пагашэнне нашых крэдытаў. „Не буду вяртацца дадому. Растлумач неяк дзецям”, — напісала.

Калі я прачытаў гэтае пісьмо, адчуў сябе, быццам дастаў абухам па галаве. Не думаў выключна аб сабе... Думаў аб дзецях. „Растлумач як-небудзь!” Як?! Як маю растлумачыць дзецям, што маці іх зраклася! Што нейкі малакасос завярнуў ёй у галаве і цяпер найважнейшым ёсць ён і яе новае з ім жыццё, у якім для мяне і нашых дзяцей няма месца. Не мог я сказаць дзецям, што мама памерла. Немагчыма так ім ілгаць. Зрэшты, абяцала, што будзе іх наведваць. Гэта малыя дзеткі. Міхась і Янка, блізнюкі, маюць па тры годзікі. Што-небудзь ім сказаў бы, зразумеюць толькі адно — маці няма.

Я таксама нічога з гэтага не разумеў. Былі мы добрым сужонствам. Цешыліся адно адным і дзеткамі, хутчэй смерці спадзяваўся б, чым такога абароту справы. Званіў ёй. Некалькі дзён не прымала званкоў. Але канчаткова зразумела, што адным лістом не дасца гэтага аформіць, дык на канец пачуў я ў трубцы яе голас:

— Не звані больш, — сказала. — Мне таксама нялёгка.

— Гандзя! — крыкнуў я. — Не рабі нам гэтага! Не рабі гэтага нашым дзеткам!

Адказам быў плач, пасля мая жонка адключылася. Я не расставаўся з мабільнікам. Ноччу зрываўся ад сну, здавалася, што яна звоніць. „Пазвоніць напэўна, бо ж плакала, — думаў я ўвесь час. — І вернецца да розуму і да нас!” Не пазваніла і не прыняла ніводнага з маіх тэлефонаў. Набліжаўся тэрмін яе планаванага вяртання. У гэты дзень прыйшла да нас цешча, каб памыць фіранкі ў вокнах.

— Мамачка неўзабаве прыедзе, — тлумачыла дзецям. — Трэба каб файна было ў хаце.

— Не расказвай ім, што вернецца, — выцісную я з сябе.

— Чаму ты гэтак гаворыш?

— Гандзя да нас не вернецца, мама, — сказаў я, з цяжкасцю пануючы над сваім голасам. І паказаў цешчы Гандзін ліст. Прачытала і — парвала яго на кавалачкі.

— Гэта недарэчнасць! — закрычала. — Я не веру!

Падаў я цешчы мабільнік:

— Пазвані ёй. Можа хопіць ёй адвагі і сама табе гэта скажа.

Гандзя не адазвалася.

— Пазваню ёй са свайго мабільніка, — цешча не здавалася. Гандзя і да яе не адазвалася. Цешча тры дні прабавала дазваніцца да дачкі, без жаданага выніку. Трэцяга дня вечарам, калі дзеткі ўжо спалі, я прыкмеціў, як цешча сядзіць над кавалачкамі ліста. Падняла галаву і заплаканыя вочы.

— Сука! — вырыдала. — Нават сука не пакіне сваіх шчанюкоў.

— Не гавары гэтак, мама. Гэта матка маіх дзяцей...

Адной бяссоннай ноччу прыйшла да мяне страшная думка. Можа, Гандзя трапіла ў нейкую бяду? Можа яе сексуальна зняволілі? Многа пішуць і гавораць аб жахлівых гісторыях жанчын, якія папалі ў лапы гандляроў жывым таварам! Валасы мне дыбам сталі на галаве. Не мог заснуць у гэтую ноч. На наступны дзень пачаў шукаць фірму, якая арганізавала выезд на іспанскія плантацыі трускалак. „Мушу знайсці жанчыну, якая была разам з Гандзяй!” — рашыў я. Спатрэбіўся цэлы тыдзень. Паехаў я ў Седльцы з адрасам у руках. Праз гэтае, што там я пачуў з аповеду, канчаткова страціў надзею.

— Яна не вернецца, — сказала пані Ала. — Была цяжарная з гэтым французам, выехала з ім перад канцом сезона.

Гэтая кабета жыла з Гандзяй і бачыла як пачаўся, а пасля развіваўся яе раманс з гэтым „жабаедам”:

— Яна ашалела з-за яго. Усе кабеты ёй тлумачылі, але нічога гэта не дало. Быццам бы гэты бабыль яе загіпнатызаваў.

Я вяртаўся дамоў дзіўна намнога спакайнейшы. Рашэнне прынятае, ведаў на чым стаю, рашыў, што не буду чакаць і думаць аб „жонцы”. Але непакоіўся, што скажу дзецям. Баяўся таксама за цешчу. У яе хворае сэрца. Як яна гэта перанясе? Не дацаніў старэйшую жанчыну.

— Не буду плакаць, — сказала мне. — А ты не бойся. Памагу табе.

Як гэтая жанчына, змучаная жыццём, знайшла ў сабе столькі сілы? Маці патрапяць, сляза ў воку мне закруцілася, падумаў я, аднак не ўсе. Што сказаць хлапчукам, што мама будзе мець новае дзіцятка? Што „старых” дзетак мае ў азадку? Канчаткова вытлумачыў ім, што мама ўжо не будзе з намі жыць, але час ад часу будзе прыязджаць, каб пабачыць, як выраслі.

— Вось ад сёння будзеце многа есці, а калі прыедзе, будзе захапляцца, якія вы вялікія!

Кончыўшы, я чакаў у напружанні першага пытання. Першы азваўся Янка:

— Цяпер зможаш купіць нам сабачку? — спытаўся.

— Татуля, купі сабачку, — падтрымаў брата курносы Міхась. Далей гаворка была толькі аб сабаку, што ён мае быць такі, якога мае хлопец суседзяў і гэтак сама называцца. Слухаў я гэтую размову як анямелы. Гандзя не згаджалася на шарсцюка ў хаце. „Можа гэта і добра, што яны ёсць яшчэ малыя, лягчэй пагодзяцца на страту, якой не разумеюць”, — думаў я, але спаць клаўся з цяжкім сэрцам. У суботу пайшлі мы ў прытулак і вярнуліся з Бобікам. Цешча закрыла на ключ сваю кватэру і пасялілася з намі. Занялася дзецьмі і домам. Я засяродзіўся на працы. Трэба было больш зарабляць, разумеў, што крэдыты яшчэ два гады будуць трымаць за горла. Мая прафесія архітэктар, але ў бюро, дзе я працаваў, было нас занмога і дадатковую працу цяжка было дастаць. Пачаў я разглядацца за майстэрняй, каб крыху яшчэ падзарабіць. Зіма наступіла, дні былі кароткія. Выходзіў я з дому — дзеці яшчэ спалі, вяртаўся — ужо спалі. Сустракаўся з хлопцамі толькі па суботах і нядзелях. Прычынай гэткай сітуацыі былі крэдыты на свой дом.

— Ці сапраўды так цяжка трэба працаваць? — пыталася бабуля. — Жыву з вамі, харчуюся ў вас. Мая пенсія ляжыць у цэласці на банкаўскім рахунку. Дазволь табе дапамагчы.

Я рашыў, аднак, што пакуль мае дзеткі маюць што есці, ад нікога не вазьму ні грашака.

— Не вяртайся больш да гэтай праблемы, мама. І так я да канца жыцця буду ўдзячны за тваё сэрца і дапамогу, — адказваў я цешчы.

Аднойчы вечарам заглянуў я ў спальню сынкоў. Янка сядзеў на сваім ложку і напужана глядзеў на Міхася: „Татуля, ён спіць... і кліча мамачку”. „Аднак сабачка не да канца спраўдзіўся” — падумаў я тады. Дайшла думка ў галаву, што дзеці мала гавораць аб матцы, але думаюць аб ёй у сне. Надалей я шукаў дадатковай працы, бывала, што хадзіў „ад дзвярэй да дзвярэй”, без поспеху. Роспачна думаў, што рабіць далей, бо грошай на сплаты меў я толькі на тры месяцы. З задумы выравай мяне нейкі голас:

— Гэй, мужычына! Чаму ты такі задуманы, прайграны? Людзей не пазнаеш?..

Гэта быў Міколка, сын суседкі маёй цешчы. Расказаў я яму, што мяне грызе.

— Марк, ты нам з неба злятаеш! — крыкнуў рады Міколка. — Ты паможаш нам, мы паможам табе.

Пайшлі мы разам на піва. Міколка расказаў, у чым заключаецца праблема. Паўгода таму яго малодшая сястра вярнулася з Галандыі. Зарабіла там вялікія грошы і ў Польшчы адкрывае праектнае бюро. Мае ўжо кантору — актуальна праводзіцца там капітальны рамонт — і купіла на Захадзе тэхнічнае абсталяванне майстэрні.

— Заказаў будзе многа, бо ў нас танней, — эмацыянаваўся Міколка. — Праблема з людзьмі. Магда хоча мець у сваёй камандзе дасведчаных праектантаў, але не руцінных. Шукае людзей адкрытых і наватарскіх. Адзін ужо ёсць. А калі дагаворыцеся, будзеш другім.

Пакуль расталіся, Міколка пазваніў сястры і дамовіў нас на наступны дзень. Так я пазнаёміўся з Магдай. „Цудоўная дзяўчына!” — падумаў я тады. І адкрытая, кантактная. Размаўлялі мы, быццам знаёмыя ад гадоў. Праз два гады, пакуль сплачу крэдыты — буду працаваць толькі ў яе.

— Маю надзею, пасля будзеце толькі да майго распараджэння, — дадала і рассмяялася. Я таксама калі загучала ў вушах тое, што пачуў. Магда пачала дзейнічаць. Паехала ў Вроцлаў і „ўгаварыла” маладога архітэктара.

— Бачыла я яго дыпломную працу. Проста жэмчуг. Вось такіх я людзей патрабую. Пакуль што вас трох. Камп’ютараў я купіла пяць, бо ў трох не дасце сабе рады...

Аказалася, што заказаў былі поўныя шуфляды. Не толькі з Галандыі, але і з Даніі і крыху са Швецыі. Заімпанавала мне гэтая „цудоўная дзяўчына”, якая мела багаты багаж мінулага. Таксічны саюз са шведскім бізнесменам закончыла гучна і брала жыццёвы паварот, з якога думала выйсці ў Польшчы. Не думала аб сваім жыцці, не шукала мужыкоў. Я таксама не шукаў жанчыны. Быў я разбіты і збалелы, не быў гатовы на новы саюз з жанчынай. І гэтак у нядобры для нас час мы сустрэліся адно з адным як пацярпеўшыя караблекрушэнне. Сустракаліся з сабою, мелі надзею, што будзем паратункам адно для аднаго. Не гаварыў я цешчы, што ў маім жыцці з’явілася жанчына. Гэту тэму кранула яна.

— Час праветрыць пакой Гандзі і апратаць яе шафу, — сказала цешча і падала мне каляровую паштоўку.

„Прывітанне з Мельбурна. Пацалуй дзетак!” — прачытаў я. З другога боку паштоўкі кенгуру з малышом, гэта знак, што „жонка” мае ўжо дзіцятка з „жабаедам”.

— Няма ўжо ў мяне дачкі, — сказала цешча і расплакалася. Абняў я цешчу, прытуліў. Стаялі мы так некалькі хвілін.

— Будзеш мець дачку, — сказаў я ўрэшце. — Нават яе ведаеш.

Расказаў я цешчы пра Магду і пра тое як яна ўвайшла ў маё жыццё.

Разумелі мы адно аднаго, і ўсё. Ноччу агортвала мяне туга. А раніцай бег на работу як на першае цудоўнае спатканне. „Не магла я заснуць, — прывітала мяне мая працадаўца. — Я думала пра цябе”. Вечарам пазваніла: „Прыйдзі да мяне, хаця б на гадзінку”.

Паехаў... і застаўся да раніцы. Гэта ноч была для мне пачаткам новага жыцця.

— Хіба я закахалася, — прамовіла Магда тады, калі я хацеў вызваліцца з яе абдымкаў, каб вярнуцца дамоў. — Хачу, Марк, пазнаёміцца з тваімі дзецьмі.

Я сказаў цешчы, што ў суботу на абедзе будзем мець госця. Хлопцы вельмі ўцешыліся і дапытваліся, хто да нас прыйдзе.

— Мая сяброўка. Люблю яе. Вам напэўна спадабаецца, бо яна прыгожая, — рыхтаваў я сваіх дзетак на спатканне з Магдай.

— Маеш рацыю, — сказаў з прызнаннем Міхась, — яна прыгожая.

— І прыемна пахне, — дакінуў Янка. — Так... салодка.

— Яна ж і салодкая, — сказаў я і моцна прытуліў блізнюкоў.

Магда палюбіла маіх дзяцей. І цяпер яна націскае на супольныя прагулкі.Часам сама іх забірае на пірожнае і марожанае.

— Люблю глядзець на шчаслівыя, усмешлівыя тварыкі, — часта паўтарае з усмешкай.

Учора быў аўторак, а калі дзеці ўжо спалі, намовіў я Магду, каб у гэты раз яна засталася ў мяне. А раніцай мелі мы несподзяванку. Абодва хлопцы заляцелі ў наш ложак. Дзеці былі рассмяяныя, шчаслівыя. Здзівіў мяне Янка, які звычайна мала гаворыць:

— Хачу, — сказаў, абдымаючы Магду за шыю, — каб ты заўсёды ў нас спала! — і тут жа далучыўся і Міхась.

Не шукаў я больш жанчыны, была побач. Пачалося новае жыццё, каб толькі шчаслівае.

*Віктар Швед*

## *Памяцi Друга*

*І памятай:*
*што хай цябе там*
*нават клічуць Шведам*
*— для нас ты быў*
*і будзеш беларус*

**Юрка Геніюш**

*Прабач мой дружа-гумарыст,*
*Не адпісаў я на твой ліст.*
*Ты адышоў так нечакана*
*З жыццёвай невылечнай ранай...*

*Я пераняў твае заветы*
*І вырашаў заўсёды гэтак:*
*Праз лад чарговы, анямелы,*
*Нёс беларускасць сваю смела.*

*Хоць называюць мяне Шведам,*
*Заўсёды я аб гэтым ведаў —*
*Непадуладным быць спакусам:*
*Быў, ёсць і буду беларусам!*

## *Акалечаныя песні*

*Сустрэў у Элку сястру Ніну,*
*Век дажывала ў свайго сына.*
*Сказала, ужо надта хворай:*
*Знаю я многа песень з Мора.*

*Табе іх не заспяваю,*
*Бо ўжо голасу не маю.*
*Можа гэты песні хтосьці*
*Заспявае яшчэ ў вёсцы?*

*Адазваўся я з сумотай:*
*Не пазнаў яшчэ я нотаў,*
*Не набыў магнітафона,*
*Хоць у песні я ўлюбёны.*

*Запісаў я песень словы,*
*Гэта ж толькі іх палова,*
*Ім мелодыяў не хапала,*
*Сястра з сабою іх забрала...*

*Барыс Руско*

## *У паэзіі*

*У паэзіі адшукуеш сябе*
*і плач скрыпкі*
*і памкненні арфы*
*і марш барабана.*

*Пачуеш голас сапрана*
*і тэнара*
*і баса.*
*Убачыш колер святла*
*ад фіялетавага па чырвань*
*У паэзіі*
*і бясконцасць*
*і маўчанне*
*і слова.*

## *Чалавек*

*Быт выстраляны*
*На арбіту гісторыі.*

*Можа прычыніць дзверы смерці,*
*або*
*згарэць ва ўласным агні.*

*Мадэль рафінаванай натуры.*

**Пераклаў з польскай мовы**
**Віктар Швед**

# Мінулае ў Орлю ўжо не вернецца




www.orla.pl

Сумна і хмурна, асабліва ў мінулым годзе, зрабілася ў самой Орлі. Няма таксама аптымізму і ў іншых вёсках Арлянскай гміны. Калі пытаю вяскоўцаў, як ім жывецца, амаль заўсёды адказваюць сумна і сур'ёзна: „зараз будуем пахавальныя дамы"; так называюць шыкарна адрамантаваныя вясковыя святліцы, таму што ў іх ладзяцца галоўным чынам толькі трызны. Большасць жыхароў нашай гміны складаюць старыя людзі, на схіле жыцця, нямоглыя.

Жыццё, людское бытаванне мяняецца ўвесь час, але найбольш гэта бачна ў малых мясцовасцях, такіх як, напрыклад, мая родная Орля. Запар са зменамі прыходзяць новыя з'явы, якіх раней не было, і яны ўспрымаюцца адмоўна мясцовым насельніцтвам. Орля ўжо ніколі не будзе такой, якой яна была яшчэ дзесяць-дваццаць гадоў таму.

Гісторыя разыгрываецца перад нашымі вачамі, у працэсе перамен чэзнуць шматгадовыя традыцыі (святочныя, спартыўныя...), падаюць фірмы і сельская гаспадарка. Інакш паводзяць сябе людзі, моладзь не горнецца да спорту (асабліва да футбола), меншае лік насельніцтва — пажылыя паміраюць, дзяцей родзіцца мала, а малалікія прыезджыя ў прынцыпе не асімілююцца, яны нейкія іншыя, бываюць не надта сімпатычныя. Орлю пачалі наведваць вонкавыя спецыялізаваныя злодзеі. У мінулым годзе вёскі патрацілі свае крамы; у гміне толькі ў Орлі спажывецкія крамы, але іх толькі дзве (раней было іх тут каля дзесяці). Многім людзям не хапае грошай на хлеб, некалькі соцень чалавек карыстаецца сацыяльнай дапамогай. Тут вялікае беспрацоўе, ад чэрвеня мінулага года каля шасцідзесяці асоб з нашай гміны страціла апякунскія выплаты і такім чынам столькі ж нямоглых старэчаў былі пазбаўлены належнай апекі.

Хаця Арлянская гміна лічыцца багатай (другая ў ваяводстве), то на вуліцах ноччу далей не гараць ліхтары і пануе цемра, ды з бягучага года гміна будзе вымушана плаціць „яносікавае".

Нечаканая змена адбылася ў мінулым годзе ў Орлі, мабыць упершыню за ўсю гісторыю мястэчка. Важным месцам кожнай большай мясцовасці з'яўляецца яе цэнтр, рынак, дзе заўсёды найярчэй бурліць жыццё, дзе людзі робяць у крамах пакупкі і, папросту, сустракаюцца. У Орлі ад паловы мінулага года цэнтр апусцеў, быццам стаў мёртвым. І стала страшней і сумней. Чаму?

Дагэтуль Орля развівалася, а зараз людзі не маюць дзе купіць нават сшытка., няма тэкстыльнай крамы, абутковай, жалезнай, крамы з артыкуламі дамашняга ўжытку. З нейкага часу не працуе па-ранейшаму пошта, ёсць толькі паштовы пункт, адкрыты тры з паловай гадзіны, з газет даступныя толькі некалькі назваў. Праўда такая, што зараз развіваюцца толькі гарады, а вёскам наканаваны адсталасць і адміранне. Недалёкая чыгуначная лінія была скасавана ў 1995 годзе, пастаянна меншае колькасць аўтобусных курсаў, а па суботах і нядзелях дастацца з Орлі ў Бельск практычна немагчыма. Не кожная сям'я мае свой самаход, а калі каго наняць, той бярэ столькі колькі таксі.

Цэнтр Орлі да вайны засялялі галоўным чынам яўрэі, пасля вайны дамінаваў там ГС. Зараз усе геэсаўскія крамы і гаспода пустуюць, на іх вісяць вялікія банэры пра продаж, але ахвотных на здзелкі няма. Шэраг будынкаў выглядае непрывабна.

Яшчэ каля 2000-га года цэнтр Орлі быў месцам кампанейскіх сустрэч пенсіянераў. Па нядзелях і святах там збіраліся пажылыя людзі, галоўным чынам мужчыны. Стаялі яны ў групках або сядзелі на лавачках і ўспаміналі перажытае, меркавалі пра пабачанае і пачутае ў тэлебачанні, дзяліліся заўвагамі, жартавалі, некаторыя заходзілі ў гасподу.

З ходам гадоў не стала старэйшага пакалення пенсіянераў; штогадова ж у Арлянскай гміне памірае ў сярэднім каля дзевяноста асоб. Рынак апусцеў, малалікія старажылы не выходзяць навонкі сваіх панадворкаў, толькі адзіночкі ў змозе самастойна наведаць лекара ці праехацца на веласіпедзе.

У будзённыя дні цэнтр мястэчка запаўняўся асобамі залежнымі ад гасподы, ад усялякіх развесяляльных напояў. Наведвальнікі крамаў абыходзілі гасподу бокам. Паводле запісаў у арлянскай амбулаторыі пад дзесяць адсоткаў насельніцтва, пераважна мужчын, празмерна спажывае алкагольныя напоі і ў выніку хварэе. Можна нават сказаць, што гаспода з'яўлялася тою крыніцай, адкуль выплывалі розныя няшчасці.

1 мая 2013 года ГС закрыў сваю арандаваную гасподу (здаецца, арандатар не спраўляўся з аплатай). Такое, мабыць, не здаралася за ўсю гісторыю Орлі. У нашай краіне пад алкагольнымі напоямі гнуцца полкі, а ў цэнтры мястэчак панавалі гасподы, якія пазней сталі называць барамі. Пры санацыі гасподу ў тым самым месцы меў яўрэй Бэрко. Відаць, салідна ён вёў свой інтарэс, калі да сёння захаваўся ў памяці арлян. Хрысціяне заходзілі ў гасподу з дзяцьмі паспрабаваць смажаных селядцоў. Пры камуне гаспода праслаўлялася добрымі і таннымі абедамі; пасля грамадскіх перамен палівалі там толькі алкаголь.

Здавалася што гаспода, хаця мела і сваіх праціўнікаў, ніколі не спыніць сваёй дзейнасці. Раптоўная ліквідацыя адзінага бара (запар з ліквідаванымі крамамі) была немалым шокам. Яшчэ доўгі час выпівакі з наваколля Орлі прыходзілі пад закрытую гасподу, сядалі на паркавых лаўках насупраць яе і спаглядалі на замкі. Мо разлічвалі, што ўсё ж нехта яе адкрые. Сумнае гэта было відовішча і нават стала жаль тых выпівакаў і канца гісторыі таго заўсёды галоснага месца. Праз нейкі час адсутнасцю бара пакарыстаўся адзін з уладальнікаў спажывецкай крамы: на яе панадворку хуценька ўладкаваў „агародчык" пад хмаркай; частка выпівакаў карыстаецца ім.

Арлянская гміна можа ганарыцца людзьмі спорту і традыцыямі прапагандавання фізкультуры не толькі ў вясковым асяроддзі (гл. „Ніва" ад 19.04.2004 г.). На жаль, ад пачатку мінулага 2013 года спынілася дзейнасць футбольнай каманды — Гміннага футбольнага клуба. Яе дзеячы тэрмінова не склалі заяўкі на датацыю; размова з войтам не дала станоўчага выніку. Цяпер моладзь не горнецца да спорту, да футбола, футбалісты пастарэлі — ім ужо пад сорак гадоў. Футбольная пляцоўка ў Кашалях, пабудаваная моладдзю грамадскім чынам, пачала зарастаць зеллем. Футбольная каманда, якая была ў ліку перадавых, была таксама добрай прамоцыяй гміны. І сумна стала балельшчыкам, якіх шмат прыходзіла на матчы. І найбольш істотнае — вясковы спорт быў важным чыннікам адцягнення маладых людзей ад алкаголю.

У Арлянскай гміне памірае шмат людзей і розныя фонды ды згуртаванні часта праводзяць акцыі збірання адзення і цацак. Калі памрэ чалавек, сямейнікі пасля нейкага часу наводзяць дома парадак і выстаўляюць на некалькі мяшкоў з рэчамі. А збіральнікаў штораз больш; бывае, што за месяц праводзяць яны па чатыры акцыі. Лістоўкі пра такія збіранні, чапляныя на брамах, амаль не знікаюць. Людзі гавораць, што гэта дапамога патрабуючым і, мабыць, добры бізнес для збіральнікаў. Здаецца, што найчасцей такія акцыі праводзяць Польскі чырвоны крыж, Мазавецкае згуртаванне ў карысць дзяцей і моладзі з мазгавым інсультам „Krok dalej" ды фонды дапамогі дзецям „Dar" і „Zdążyć z pomocą".

Прыслухоўваючыся да людскіх размоў, варта заўважыць, якія пытанні хвалююць сёння людзей, пытанні без адказаў. Людзей трывожаць пытанні:

— Калі ў Орлі пачнецца пабудова патрэбнага дома культуры?

— Хто і з якім стаўленнем да людзей будзе новым настаяцелем Арлянскага прыхода? (Дасюлешні ўжо на пенсіі.)

— Ці жыхары Орлі атрымаюць добрага новага лекара ў новую, пабудаваную па вуліцы Бельскай, прыватную лячэбніцу? (Цяперашні сямейны лекар у пенсійным узросце.)

Людзей цікавіць таксама пытанне, ці вернецца той час, калі маладыя загавораць па-свойму. Але найбольш хвалюе людзей пытанне, за што выжыць да канца месяца.

Вядома, у Арлянскай гміне абнаўляюцца дарогі і вуліцы, пабудавана каналізацыя, у школе спортпляцоўка „Орлік" — гэта відаць. Але ў людзей аптымізм нямнога, шмат хто кажа: „Орля, колішні горад, замік з прагрэсам ісці наперад, саступае".

**Міхал МІНЦЭВІЧ**



## Дабрадушнасць

Чацвер — традыцыйны для Бельска гандлёвы дзень. Хаця цяпер, у эпоху камерцыялізацыі, кожны дзень гандлёвы, у тым ліку і нядзелі. Але традыцыя сілай нейкай інерцыі ўсё яшчэ трымаецца. Па чацвяргах вакол Бельска ўсё яшчэ больш ездзіць аўтобусаў публічнай камунікацыі, лекары-спецыялісты назначаюць на гэты дзень візіты ў свае прыёмныя... Ну і гэты гандлёвы чацвер усё яшчэ трывае ў свядомасці народа, асабліва старэйшага.

Вось у адзін з чацвяргоў выпала мне пабываць у Бельску. На аўтобусным прыпынку, што насупраць ратушы, лічаныя асобы чакаюць аўтобуса ў напрамку Беластока. Побач, на прыступках адной з выстраеных у шарэнгу крамаў, сядзіць крышку пажылы чалавек, апрануты паводле традыцыйнай вясковай фэйшн — у гумавых ботах і вушанцы з паднятымі але не завязанымі навушнікамі. Чалавек змучаным зрокам глядзіць у нейкі свой не надта выразны космас. Пацінуўшы пальцамі нос, выкідае перад сябе атрыманыя насавыя адкіды...

Пад'язджае маршрутка, фармуецца кароткая чарга пасажыраў. Раптам кулём шлёпае ў дзверы машыны прыступкавы пасядзельнік; ягоныя ногі ледзь паспелі за тулавам. Частка пасажыраў ведае яго і заварочвае па пакінутыя ім на прыступках дзве сумкі. Ён не надта свядомы абставін, не надта цяміць, чаго ад яго патрабуюць. Нехта з чаргі падбірае ягоныя сумкі ўніверсальнага колеру і дастаўляе ў машыну. Шафёр, добры чалавек, мог бы цалкам законна не браць яго ў салон, бо невядома, што пасажыр у такім стане можа пасля сябе пакінуць. Але і шафёр, відаць, ведае чалавека, просіць людзей каб дапамаглі яго забраць у Праневічы, а то яшчэ паліцыя можа яго падабраць... У Праневічах удаецца высадзіць моцна нямоглага пасажыра недзе паблізу ягонай хаты.

Ну, што ж, чалавек у рынычны дзень спаткаў нейкага старога знаёмага, можа сямейніка, можа саслужыўца з войска, можа кумавага кума, з якім даўно не бачыўся, трэба было пагаварыць, шчыра расказаць сабе ўсё, раскрыць свае душы. А найлепш раскрывае душы эліксір шчырасці, традыцыйны сродак, якога маем да выбару ў розных назвах, колерах, ёмістасцях, моцы ўздзеяння і гэтак далей... Адно тое ўздзеянне мае розныя пабочныя эфекты, якія па-рознаму праяўляюцца ў розных індывідуаў; у апісаным выпадку ўсё, здаецца, адбылося О.К.

Машына дасягае Рыбал, вадзіцель ведае, дзе трэба высадзіць жанчыну, якая вяртаецца з бельскімі чацвярговымі пакупкамі — пры дарозе ў Паўлы. А на той жа дарозе, на абочыне, на зрудзелай траўцы, трываў у прысядку таксама крыху пажылы мужчына. Убачыўшы перад сабою такі рух, ён сарваўся, спешна падцягнуў нагавіцы і накіраваўся ў бок тамашняй дыскатэкі. Мабыць, наспела ў яго неадкладная „большая" патрэба і ён тут жа, на прыасфальтавы газон, рашыў выкінуць змесціва ўзбунтаванага кішэчніка. Калі б не дабрадушны шафёр, усё было б О.К.

У вялікіх гарадах для такіх выпадкаў прадбачаны спецыяльныя ўстановы. Але па вёсках такіх няма. Ды і гарадскія газоны пад спецыяльнай апекай — там жа, калі чый сабака ці кот справіць арганічную патрэбу, ягоны ўладальнік абавязаны прыбраць пакінутае ў адмысловую ёмістасць; каб было чыста. А як ахоўваць вясковыя газоны? Ці кожны мужык мае пры сабе мець пакецік і шуфель, каб у выпадку... А калі ў ходзе галоўнага акта засцігне непрадбачаны аўтобус з аўдыторыяй, з якога бліжэй выкаціцца жанчына з пакупкамі?

Але можа непатрэбна я хвалююся, можа ў нашым усёахопным Бруселі ўжо пра гэта думаюць. Будзе, што без пакеціка і з хаты не выйдзеш... Ды і для дабрадушнасці, мяркую, някепска было б там устанавіць нейкую меру, бо ж, як кажуць у народзе, дабрадушнымі намерамі пекла вымашчана.

**(ав)**

# Музыкі-трансформеры

**Слухачы міхалоўска-гарадоцкага гурту „Dead Insemination", могуць быць паражоныя і тэкстамі, і добрай музыкай, а апошнім часам — відэакліпам „У клубе". Як кажуць хлопцы, ігра ў гурце з такой назвай дазваляе зняць стрэс, да якога прыводзіць рэчаіснасць. А ў новым відэакліпе паказваюць, што такі сам хлеў, даслоўны і ментальны, можна сустрэць не толькі ў невялікай вёсцы Пянькі, але і ў беластоцкім модным клубе.**


Fot. Michał Podbielski

Гурт „Dead Insemination" паўстаў у 2012 годзе. Заснавалі яго Пецят — вакал, Дарэк і Адам — гітары, Грыша — бас-гітара і Павел —перкусія. Ужо ад двух гадоў па самых цёмных падляшскіх клубах іграюць метал — музыку з элементамі электронікі. Выступаюць без высокіх ганарараў. Часта дарма, але як на музыкаў з сямігадовым вопытам, хлопцы прабуюць зачапіцца на розныя халтуры. Тады вакаліст Пеця выкідае мікрафон з казіным чэрапам, зьмяняе прычоску і супольна з Паўлам забаўляюць гасцей на вяселлях.

## Натхненне

Найчасцей героямі іх песень з'яўляюцца людзі, якія не ўпісваюцца ў сацыяльныя нормы. А, як вядома, функцыянаваць па-за грамадствам немагчыма, таму на такіх людзей звальваецца пакаранне: несхаваная, накіраваная на дэвіянта шчырая пагарда. Хлопцы да чарговага відэакліпа, першага іх прафесійнага дасягнення, вырашылі пашукаць дакладна такую асобу. Дзе шукалі? Па беларускіх вёсках. І так, героем новенькага відэакліпа „Dead Insemination" з'яўляецца Дарак, жыхар Пяньковй. Той, ахвотна прыняў прапанову дэбюту на блакітным экране, лепш сказаць, экране камп'ютара, за паўлітроўку. „П'ю, бо няма працы, і няма нічога" — такую рэфлексію героя можна пачуць у відэакліпе. Аднак, як у кожнага, жыццё Дарка гэта не толькі праблемы, задума над складанасцямі жыцця ў хаце пры печцы, але таксама радасці ад таго, што можна купіць патрэбныя напіткі на суботнюю вечарыну на „мэце" — у прытоне. Той, на шчасце, побач.

Акцыя відэакліпа „У клубе" з хлява спадара Дарка пераносіцца ў адзін з беластоцкіх клубаў. Вядома, сам Дарак асабіста не паехаў у Беласток, бо ўвогуле мала калі пакідае родныя Пянькі, аднак пазычыў сваю куртку і вількі, што, дзякуючы кінамантажу Дарка Ярмоліка, дае ўражанне, быццам глядач не выходзіць з хлява, а толькі па прычыне таямнічай трансфармацыі пераносіцца ў беластоцкі клуб. Адным словам не мяняецца сюжэт, толькі абставіны.

## Тэксты

Тут нямнога можна напісаць, беручы пад увагу шырокі ўзроставы дыяпазон чытачоў. Абагульняючы, іхнія тэксты ўвогуле пазбаўлены рамантыкі, хаця кожны гаворыць аб складанасці жаноча-мужчынскіх суадносін. Асобам, якія яшчэ ў аўры нядаўняга свята Валянцінак, раю іх не слухаць. Найчасцей лірычны суб'ект — гэта самотны мужчына, пазбаўлены рамантычных кантактаў з жанчынамі, нават на свой спосаб агідны ў сваіх сексуальных памкненнях. Фабула песні „Dead Insemination" сыходзіць на, гэтак званы, звярыны ўзровень — ёсць толькі інстынкт, біялагічны механізм, а не культурная абалонка.

Усё ж такі гурт „DI" ў сваёй творчасці паказвае рэверс свята, які абапіраецца на прыгажосць, культ цэласнасці, даўгавечнасці, здароўя, а таксама здавальняючых людскіх суадносін. Выступае супраць. Не падабаецца ім ані стары, ані новы лад жыцця. Выказваюць гэта сваёй музыкай, тэкстамі, якіх ніколі не пусціць ніводная радыёстанцыя, таксама ніколі не выступяць з імі на масавых канцэртах, ладжаных для натоўпу, які прагне добрай летняй гульні, ці арганізаваных для вышэйшых мэт. Для хлопцаў з „Dead Insemination" галоўная мэта — гульня. Музыка, якую граюць — страсць, а тэксты і кліпы — спроба пракаментаваць акружаючую іх рэчаіснасць. Канчаткова невядома ці ў будучыні сялянскі двор спадара Дарка ў Пяньках будзе таксама славуты як Abbey Road у Лондане!

**Уршуля ШУБЗДА**




Асобам, якія заўзята займаюцца нейкай справай, часцяком падаецца, што яны першымі за іншых убачылі ў свеце нешта такое, чаго тыя іншыя ніяк не могуць заўважыць. І тут вельмі зручным можа стаць інтэрнэт, каб жаданне падзяліцца з цэлым светам сваім адкрыццём было зрэалізавана. Праўда, магчыма, не кожны наведвальнік такога сайта заўважыць і гэтае адкрыццё, але з'яўленне новай вэб-старонкі, якая распавядае пра сур'ёзныя рэчы, можна толькі вітаць.

Адным з прыкладаў сайта, дзе яго ўладальнікі хочуць распавесці нам нешта новае і невядомае з'яўляецца „Ідэя", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://ideaby.org**. Выглядае ён даволі проста і адразу бачна, што зроблены аматарамі на адной з бясплатных платформ. Уверсе каля назвы знаходзяцца некалькі выйсцяў на рубрыкі, маласкасць якіх адразу ставіць пад сумнеў словы ў падзагалоўку „Сусветная палітыка і эканоміка". Разам з тым ганарлівасці ад стварэння „Ідэі" яе натхняльнікам не займаць, і гэтаму варта нават падвучыцца.

«„Ідэя" — першы ў Беларусі сайт цалкам прысвечаны сусветнай палітыцы і эканоміцы. Мы аб'яднаныя мэтай данясення праўдзівай і адэкватнай інфармацыі з усяго свету. Мы стварылі „Ідэю" для людзей, якія шукаюць карысную і цікавую інфармацыю са сфер палітыкі і міжнародных стасункаў, эканомікі і бізнесу. „Ідэя" з'яўляецца двухмоўным часопісам. Аднак мы жывем у краіне, дзе тытульная мова нацыі занесеная ЮНЭСКА ў „Спіс выміраючых моў", таму мы лічым неабходным большую частку інфармацыі падаваць менавіта на беларускай мове. Мы верым у прынцыпы дэмакратыі і плюралізму, свабоднага рынку і прававой дзяржавы, беларускай незалежнасці і еўрапейскай інтэграцыі. Вышэйшае не азначае, што мы зачыненыя для іншых меркаванняў. Наадварот, мы гатовыя прапанаваць нашу пляцоўку для Вашых ідэй», — пішуць уладальнікі сайта на старонцы „Пра нас", выйсце на якую месціцца ў канцы спіса і даецца зусім малымі літарамі.

Вельмі прыемна, што ўладальнікі і натхняльнікі сайта не хаваюць сваіх імёнаў. На старонцы „Кантакты" можна ўбачыць, што гэта Рыгор Астапеня, які з'яўляецца рэдактарам сайта, і Ілля Шыла — вэб-адміністратар.

Калі зазірнеш на іншыя старонкі сайта, то напачатку крыху здзіўляешся, бо сур'ёзны змест артыкулаў неяк зусім не пасуе да даволі простага і куртатага аздаблення сайта. Яго аўтары ўздымаюць важныя тэмы міжнародных падзей і працэсаў. Тут і расповед пра сірыйскую вайну, італьянскія выбары, галасаванне ў Чэхіі, палесцінска-ізраільскі канфлікт, галандска-беларускія эканамічныя стасункі. Такія артыкулы прымушаюць больш уважліва прыглядзецца да аўтараў, прынамсі, да таго ж Рыгора Астапені, чыё імя больш за ўсіх сустракаецца каля тэкстаў. Аказваецца, ён з горада Салігорска, магістрант Варшаўскага ўніверсітэта па спецыяльнасці міжнародныя стасункі. Хлопец актыўна займаўся палітыкай у шэрагах „Маладога фронту" і нават быў пасаджаны ў лукашэнкаўскую турму за ўдзел у мірных вулічных акцыях.

Зразумела, у Беларусі, нягледзячы на медыйны голад, існуюць сайты, прысвечаныя міжнароднай палітыцы і эканоміцы, але „Ідэя", калі яна не загіне ў галовах натхняльнікаў сайта, можа стаць сапраўдным цэнтрам прыцягнення свабоднай палітычнай беларускай думкі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Не скарыўся сталінскай сістэме

## 80 гадоў з дня нараджэння Алеся Логвіна

Збляны — ціхая малапрыкметная вёсачка ў Лідскім раёне. Прытулілася яна амаль да самога Нёмана. Прыгожая праваслаўная царква, ладныя хаткі, старыя прысады, імклівая плынь вялікай ракі — усё гэта ў гэтай старонцы заміloўвае і вабіць нейкім чароўным хараством. З гэтай вёскі паходзіў цікавы чалавек, з якім, на жаль, асабіста пазнаёміцца неяк не давялося — Аляксей Логвін. Упершыню для шырокага кола пра гэтую асобу напісаў Уладзімір Арлоў у адным з нарысаў.

Нарадзіўся Аляксей Логвін 26 лютага 1934 г. Калі яму споўнілася 17 гадоў, хлопец быў засуджаны да 10 гадоў савецкага сталінскага канцлагера. Аляксей быў удзельнікам падпольнай школьнай арганізацыі, якую з гледзішча сённяшняга дня можна было б назваць хутчэй нефармальнай грамадскай суполкай. Астатнім удзельнікам арганізацыі, якія былі ўжо паўналетнімі, камуністычныя карны суд адмераў яшчэ болей — па 25 гадоў зняволення. Самае недарэчнае было ў тым, што сябры падпольнага згуртавання стварылі нават не антысавецкую падпольную арганізацыю, а менавіта антысталінскую. Яны наіўна меркавалі, што вучэнне Леніна было правільным і чыстым, а вось Сталін яго сапсаваў і павёў краіну няправільным шляхам. Хлопцы бачылі навокал мора несправядлівасці, многія арышты і пастанавілі змагацца з гэтай заганнай сістэмай. Юнакі хацелі выхоўваць моладзь у антысталінскім духу і весці асветніцкую дзейнасць. Было вырашана наладзіць сувязь з мясцовым ксяндзом, а таксама з тагачаснай Югаславіяй, паколькі тая пачала праводзіць незалежную ад Масквы палітыку.

Канспірацыя ў той моладзевай арганізацыі была на вельмі прымітыўным роўні, а да ўсяго сярод удзельнікаў суполкі былі два хлопцы, бацькі якіх былі даносчыкамі ў ястрабінай МГБ. Гэтыя двое дакладвалі органам пра ўсе планы арганізацыі, а пазней самі сталі супрацоўнікамі савецкіх спецслужбаў.

Калі была аддадзена каманда на знішчэнне арганізацыі, падлетка Аляксея арыштоўвалі чацвёра. Логвін расказваў, што падчас так званага „следства" яго нават не білі. Хутчэй усяго таму, што следчы навучаўся ў вячэрняй школе, а Аляксей Логвін рашаў яму тады матэматычныя задачы.

У першым сваім канцлагеры для непаўналетніх у Мардовіі Логвін звярнуў увагу на тое, што там сядзелі адны палітычныя і было зусім мала расіян. Смерць пачварнага Сталіна зняволеныя, як згадваў Аляксей, адзначалі як сапраўднае свята, радаваліся гэтаму факту надзвычай.

Аднак першая амністыя закранула толькі тых, хто меў тэрміны зняволення меншыя за пяць гадоў. Аляксея Логвіна перавялі ў сібірскі Камышлаг на будаўніцтва нафтаперапрацоўчага завода. Праз тыдзень знясільваючай працы ён ужо не мог хадзіць, так што нават карцар здаваўся паратункам і пэўным адпачынкам. У 1954 г. Аляксей Логвін адсядзеў у такім карцары 54 дні і ночы.

На схіле дзён Аляксей Логвін прызнаваўся, што як не шкадаваў пра свой удзел у падпольнай арганізацыі пры арышце, так ані не раскаяўся і пасля ўсяго перажытага. Ён зберог годнасць беларуса і не скарыўся машыне таталітарнага камуністычнага рэжыму. Памёр Аляксей Логвін у Лідзе 12 студзеня 2004 г., крыху не дажыўшы да сямідзесяці гадоў.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




# На сходзе ў Кузаве

Штогод у лютым Чаромхаўская гміна арганізуе вясковыя сходы ў салэцтвах, на якіх інфармуе жыхароў аб выкананні мінулагодняга бюджэту, аб рэалізацыі інвестыцыйных задач, таксама аб праектах на бягучы год. Такі сход у Кузаве адбыўся 21 лютага. Паколькі пасяджэнне было назначана на 10:30, дык прысутнасць была мізэрная, усяго 16 чалавек на больш за сотню гаспадарак. Удзельнічалі прадстаўнікі самаўрада: войт Юры Шыкула, намеснік войта Ірыней Леанюк, скарбнік — Міраслава Кандрацкая-Найбук, прадстаўнік камунальнай гаспадаркі Альжбета Попка і кіраўнік канцылярыі Галіна Баранаў. Жыхароў прадстаўляла радная Альжбета Каліноўская і солтыс Васіль Панасюк, які старшынстваваў сходу.

Першым голас узяў войт Юры Шыкула, які прывітаў прысутных, а затым паведаміў, што 3 сакавіка ад 9:00 да 14:00 пры мясцовым Гмінным асяродку культуры будзе працаваць пункт прыёму ПІТ-11 (па дамове з Казначэйскай установай). Зацікаўленыя асобы могуць з'явіцца з дакументамі ў назначаным часе, а працаўнікі казначэйскай установы дапамогуць разлічыць падаходны падатак за 2013 год. Другая інфармацыя тычылася навучання аб еўрасаюзных даплатах для сялян, якое пачнецца 11 сакавіка 2014 г.

Аб выкананні бюджэту і рэалізацыі інвестыцыйных задач праінфармавала скарбнік Міраслава Кандрацкая-Найбук. „Асноўнай задачай сёлета да выканання ў салэцтве Кузава, — сказала яна, — будзе пракладка каналізацыі. Інвестыцыя па графіку мае быць здадзена ў карыстанне ў лістападзе гэтага года”.

Гэта аптымістычная вестка, толькі каб не аказалася перадвыбарчай абяцанкай. Такую ж абяцанку на падобным сходзе ў лютым 2010 года даў тадышні войт Міхал Врублеўскі. Была аформленая тэхнічная дакументацыя. Войта не выбралі на чарговы тэрмін, а каналізацыю „чэрці ўзялі”. Усё нанава трэба было рабіць. На думку гмінных чыноўнікаў задача тады не магла быць выканана, паколькі дакументацыя была зроблена з хібамі. Трэба спадзявацца, што цяперашні войт гэтым разам не падвядзе жыхароў Кузавы.

Альжбета Попка, намеснік кіраўніка камунальнай гаспадаркі дала інфармацыю аб гаспадарцы нечыстотамі. Заявіла яна, што з пачаткам студзеня г.г. рахункі за ваду з водаправода і вываз адходаў жыхары абавязаны пералічваць на індывідуальны банкавы рахунак прызначаны падаткаплацельшчыку, а не як дагэтуль на рахунак гміны.

У ходзе дыскусії ўдзельнікі сходу краналі праблему недасканалага закону аб гаспадарцы нечыстотамі, як і тое, што не ўсе трымаюцца правіл. Мікалай Б. напрыклад, пытаў, чаму Прадпрыемства камунальных паслуг патрабавала ад яго за кантэйнер дзесяцігадовай даўнасці больш за семдзесят злотых, хоць раней за арэнду гэтага ж кантэйнера плаціў фірме сімвалічную залатоўку. Юзіка Г. у сваю чаргу ўзбударажыла справа спальвання суседам адходаў на вогнішчы. „Ці я вымушаны атручвацца смуродам дыму? — пытаў войта. — І другое пытанне: хто скажа, чаму здараюцца выключэнні электратоку, хоць у гэты час надвор'е здавалася быць нармальным?” Пятро Ч. скардзіўся на недасканалую медыцынскую апеку. „Сямейны лекар у асяродку прымае дваццаць пацыентаў. Пры большай колькасці наведвальнікаў рэшту адпраўляе дамоў. У гайнаўскім шпіталі чэргі да спецыялістаў вялікія. Чаму б не аформіць на працу другога лекара?”

Бурлівую дыскусію ўзняла Марыя Б. пытаннем, чаму яна вымушана плаціць дадаткова за вываз нечыстотаў з могільніка, паколькі такую паслугу аплачвае ў гміне. На гэта адгукнуліся прадстаўнікі царкоўнай рады, якія аднагалосна закрычалі, што пытанне не тычыцца сходу і не павінна абмяркоўвацца.

Войт акрэсліў свае адносіны да пастаўленых пытанняў:

— Праблема вывазу нечыстотаў з могільніка павінна вырашацца прыхаджанамі і царкоўнай радай. Сакральныя аб'екты, у гэтым ліку храмы ў Зубчах, Кузаве і Апацы лічацца помнікамі даўніны і гміна прызначае адпаведныя сумы на іх аднаўленне. З абавязкам вывазу нечыстотаў прыход абавязаны спраўляцца ў рамках сваіх кампетэнцый. Справа медыцынскай апекі ў мясцовым асяродку ўсім добра вядомая. Службовая кватэра для лекара прызначана. Няма ахвотных на працу ў Чаромсе. Спальванне на вогнішчы адпадаў у заселеных пунктах не дазваляецца законам і парушальнікі правілаў павінны мець свядомасць свайго ўчынку. Будуць яны прыцягнуты да адказнасці...

Паколькі больш пытанняў не было, солтыс Васіль Панасюк закончыў сход.

**Уладзімір СІДАРУК**



## СПАЧУВАННІ

Словы шчырага спачування спадару
**ВАСІЛЮ ЛЯШЧЫНСКАМУ**
**і ягоным родным**
з прычыны напаткаўшага гора
**— смерці жонкі Таццяны**

перадае
**Праграмная Рада Тыднёвіка „Ніва”**
**і Беларускае Радыё „Рацыя”.**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування шматгадоваму дырэктару бельскай „тройкі” спадару
**Васілю Ляшчынскаму і Яго сям'і**
з прычыны напаткаўшага Яго гора
**— смерці жонкі Таццяны**

перадаюць: дырэкцыя, настаўнікі, працаўнікі, бацькі і вучні Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім.

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афрыканскую пагаворку.

1. збудаванне для сушкі снапоў перад малацьбой = 23 _ 3 _ 25 _ 26 _;
2. дыпламатычны прадстаўнік рымскага папы = 9 _ 10 _ 28 _ 8 _ 15 _;
3. споравая расліна ў вільготных мясцінах, на дрэвах, камянях = 17 _ 29 _ 32 _;
4. народ = 24 _ 2 _ 36 _ 16 _ 18 _;
5. ядомы пласцініcты грыб з рыжай шапачкай = 30 _ 31 _ 11 _ 12 _ 19 _;
6. дрэва сямейства кіпарысавых (*Thuja*) = 33 _ 34 _ 27 _ ;
7. хвойнае вечназялёнае дрэва (*Taxus baccata*) = 13 _ 20 _ 22 _;
8. перад абедняй = 35 _ 4 _ 5 _ 6 _ 7 _14 _;
9. прэснаводная рыба сямейства карпавых (*Leuciscus idus*) = 21 _ 1 _ 37 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | 15 | 16 | 17 |
| | | | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**
Жыўкаў, Окву, пай, роў, чын.
Рашэнне: **Чужы край поўны ваўкоў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 02.03 — 08.03

**(22.03. — 20.04.)** Амбітны падыход да абавязкаў. Нагоды для наладжвання знаёмстваў, шматабяцальных кантактаў, карысных кантрактаў. Схочацца дамінаваць у пары (увесь месяц). Дома ўсё зробіш, каб было ўсім добра. 1-4.03. лепш не займайся фінансамі і пакупкамі. 5.03. хтосьці трапіць табе ў вока (знаёмы можа стацца кімсьці вельмі блізкім). Першыя дзве дэкады не будзеш сябе адчуваць найлепш, адпачывай, змяні дыету.

**(21.04. — 21.05.)** Сябры будуць стаяць за табой як мур. У пачуццях не бойся нялёгкіх рашэнняў. У радні і дома могуць прытрапіцца кепскія весткі і праблемы з дзецьмі (адрэагуй у пору). Не паддавайся чорным думкам і пазбягай ныцікаў. 4-8.03. не бойся даверыць, не аценяй кепска малавядомых людзей. Здабывай чарговыя вяршыні. З 5.03. адкрыюцца перад табою новыя прафесійныя шанцы.

**(22.05. — 22.06.)** У кашальку лепш — атрымаеш цікавыя даручэнні або нечаканую спадчыну. Але ў пары могуць ахапіць цябе сумненні. Дома дробная рэвалюцыя, трэба будзе змяніць планы ці стратэгію. Настрой добры і моцнае здароўе (не еж толькі тлуста і салодка). У сакавіку будуць табе дакучаць пячонка і падстраўнікавая залоза. 6.03. можаш атрымаць добра платнае заданне або грошы за даўно зробленую працу, а можа атрымаеш спадчыну?.. Добра інвестуй, не растрачвай!

**(23.06. — 23.07.)** Аж да 20.03. будзеш у выдатным настроі, ідэальны час каб падбаць аб здароўе і ўзмацніць форму. Добры час на сур'ёзныя дэкларацыі. Кіруйся розумам. Паявяцца новыя шанцы, выплывеш на шырокія воды. Дома прыемная атмасфера. На працы ўпарадкуй старыя справы.

**(24.07. — 23.08.)** 1-5.03. не бойся адважных прыёмаў. На нічым не страціш. Нават калі не ўсё пойдзе згодна з тваёй думкай, дык акалічнасці цябе міла здзівяць. Вольныя Львы не павінны спяшацца з пошукамі другой паловы, а спараваныя асабліва ў першай палове сакавіка будуць мець як у раю. Ад 5.03. будзеш мець мноства задум, каб пасаладзіць сабе жыццё і падагрэць пачуцці. Абавязкі дома асабліва са старэйшай раднёй.

**(24.08. — 23.09.)** З даверам глянеш у будучыню. Не аб'яўляй неабдуманага. З партнёрам не шукай заменных тэм. Але да паловы месяца ты знакаміта арганізаваны, і падбаеш аб мілую атмасферу дома. Але за радаснай душой цяжкавата будзе рушыцца цэлу — аж да 20.03. будзеш слабейшы, цікавасць будуць прастуда і мікробы. Дбай асабліва аб далоні. Старайся ашчаджаць.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш больш схільны да рашучага дзеяння і адкрытага выказвання сваіх пачуццяў. Глядзі: паміж каханнем і нянавісцю тонкая мяжа! У сакавіку твая асоба будзе выклікаць таксама адмоўныя пачуцці. Дбай аб свой пазваночнік. Спрабуй змяніць свой стыль жыцця. Дзякуючы тваёй харызме і індывідуальнасці нішто цябе не зломіць. 4-9.03. можаш атрымаць ілжывыя інфармацыі, будзеш распусны і прагны; пасля не пашкадуй!

**(24.10. — 22.11.)** Пільнуй беззадказнага супрацоўніка. З 5.03. тваё каханне можа прайсці агнявую пробу. Не спяшайся з прызнаннямі. Спакой у сямейных адносінах. Форма някепская. Не зачыняйся ў форме прывычак. Знакаміты час у прафесійных справах. Пааплачвай найважнейшыя выдаткі.

**(23.11. — 22.12.)** Лёгкасць наладжвання кантактаў, выклічаш павальнае ўражанне на супрацьлеглым поле. Але 4-8.03. будзеш схільны да выказвання нятрапных высноў. Не іграй першых скрыпак. Да 6.03. не ўсе праекты зрэалізуеш на час; не засяроджвайся на рэчах няварты дробязнага аналізу. Пастарайся сустрэцца з даўно нябачанымі знаёмымі і раднёй.

**(23.12. — 20.01.)** 1-4.03. будзеш спакуслівы, вабны, аж здабудзеш што табе трэба. У пачуццях усё дэталёва абдумай. Перад табою вялікія змены ў жыцці, аб якіх пераканаешся ў палове месяца. Развівай таленты. Пакладзеш націск на здароўе не толькі сваё, але і іншых — таксама і духоўнае, зацікаўся натуральнай медыцынай.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Будзеш знакаміта адчуваць сітуацыю, трапіцца табе творчыя задумы, інтуіцыя падкажа найлепшыя рашэнні. Пасля 6.03. гарачы час у пачуццях (цікавае новае знаёмства з асобай адкрытай і адначасова таямнічай). Не выбягай перад шэраг, ведай свае месца. Асцярожна з горлам

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Вялікая энергія і бавітасць. Перад табою прафесійныя поспехі. Карыстайся і сягай па больш! Каханні таксама не будзеш доўга чакаць — пасля 6.03., калі вырашыш звязацца з кімсьці, пачуццё спачувць вас надоўга і моцна. Дома не паддавайся эмоцыям, хатнія справы будуць мець шчаслівы фінал. У фінансах таксама добра.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Што дрэмле ў лямцы?

З лямцу можна вычараваць амаль усё. Але давесці тэкстуру матэрыялу да вабнасці і надаць яму незвычайны колер — гэта сапраўднае мастацтва. Без сумневу, гэта даказала **Дарота Сульжык** на адкрытай 21 лютага выставе ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку. Можна было на ёй пабачыць лямчаныя мастачкай шалікі, шапкі і нават цацкі, абажур і вокладку для сшытка. На адкрыцці, верагодна, ніхто не спадзяваўся такога натоўпу, які паслухаў таксама песні з Лукі ў выкананні жанчын з беластоцкага калектыву «Кумы і сванькі» Згуртавання АБ-БА.

Першую выставу ў кар'еры аўтаркі, акрамя яе самой, вельмі перажывалі яе бацькі і муж — гісторык і публіцыст Юрка Сульжык. Перад адкрыццём выставы прызнаўся ён «Ніве»:

— Калі я сустрэўся з Даротай, яна ўжо была мастачкай. Яна спявала, складвала песні, рабіла ўпрыгожанні і габелены, малявала. З самага пачатку, калі я ведаю, спалучала колеры. Яна — каларыстка. Найпершае свае працы рабіла для сябе. Пасля і для іншых. Як толькі я іх уперشыню ўбачыў, адразу быў уражаны. Дароце планаванне і само craранне займае шмат часу, але ў гэтым яна здзяйсняецца. Гэтым яна жыве, увесь час носіць у сабе гэтую творчасць.

Бацькі мастачкі Валянціна і Ян Кузьмічы былі аднадушныя:

— Дарота заўсёды была здольная. Заўсёды малявала, пісала. Нашы мамы, а Дароціны бабулі, вышывалі і ткалі. Мы не спадзяваліся, што прыйдзе так шмат людзей. Мы вельмі ганарымся Даротай.

Адкрываючы выставу Юры Хмялеўскі, дырэктар ГЦК заўважыў:

— Калісь на тое, што робіць Дарота, казалі: прыкладное мастацтва, і штосьці ў гэтым ёсць. Гэты тэрмін, аднак, не цалкам адлюстроўвае тое, што можна ўбачыць на выставе. Для нас гэта вельмі вялікая падзея, тым больш, што прадстаўляем працы жыхаркі нашай гміны, са Станцыі Валілы. Восенню Дарота пачала ў ГЦК працу з дзецьмі і пры нагодзе ўзнікла ідэя выставы.

У размове з «Нівай» аўтарка распавяла:

— У нашым рэгіёне лямцаванне ў першую чаргу асацыюецца з валеннем валёнак. Такая ёсць традыцыя на Падляшшы, што ў кожнай вёсцы быў хтосьці, хто такія валёнкі вырабляў. Гэта здараецца са мной, што калі прызнаюся, што лямчу, то людзі нагадваюць, што іх бабулі і дзядулі таксама займаліся лямцам і заўсёды дадаюць, што гэта цяжкая праца. Я хацела на выставе паказаць, якія іншыя магчымасці мае лямец, асабліва тыя ў мастацкім вымярэнні, колькі можна — нават не з лямцу, а з часанай воўны, з якой з дапамогай адпаведнага працэсу атрымаецца лямец — цікавых рэчаў зрабіць, практычных, прыдатных, але і чыста мастацкіх. Я не толькі лямчу брошкі, шалікі і сумкі, але і тэпцікі, адзенне, абажуры, сурвэты, навалачкі на падушкі, шапкі, капелюшы і нават злямчыла я вокладку для сшытка і часткі цацак. Ад месяца рыхтуючы выставу я хацела злямчыць як найбольш прадметаў, а не толькі шалікі, у якіх я спецыялістка. І гэта нялёгка, таму што кожную рэч лямчыцца па-рознаму, для кожнай неабходна зрабіць асобную форму. Дзякуючы выставе я хацела, каб людзі ўбачылі, што з лямцу можа зрабіць нешта цікавае, а не толькі вяжучы кручком ці на прутках.

Дарота прызналася таксама:

— Я проста хацела паказаць, што ў лямцы дрэмле. Я не ўмею валяць валёнак. Гэта вельмі цяжкая праца. Трэба мець адпаведную вялікую форму. Сваіх прац не капірую. Гэта мае ўласныя ідэі.

Успамінала аб сваім зачараванні колерам:

— Я заўсёды дбаю аб колеры, так што мае працы заўсёды каляровыя. З часоў ліцэя я адчувала патрэбу вылучацца, а гэта былі 1980-ыя гады — крызісныя ў крамах, шэра-бурыя, без выбару. Я спрабавала нешта сама перарабляць. Я заўсёды рабіла некаторыя аксесуары: ювелірныя вырабы, сумкі, шыла сабе пальчаткі. У мяне была такая моцная патрэба, у якую заўсёды ўпісаны колер. Я адчуваю сябе нямёка, калі не нашу колеру. Я не нашу і не маю чорнага адзення. Я ведаю, што чорны выдатна ладзіцца з іншымі колерамі, ды калі ўжо — хіба што нейкая бронза з каляровымі дэталямі. Кайфую ад спалучання розных колераў, асабліва іх адценняў, таму што не кожны зялёны будзе адпавядаць кожнаму з адценняў чырвонага колеру. Сама я заўсёды была маляўнічай і нават як настаўніца ніколі не збіраюся, нават хадзіўшы па школе, змяніць гэта.

Дарота Сульжык у бліжэйшы час мае намер цалкам прысвяціць сябе свайму рукадзеллю, перш за ўсё лямцаванню, але і ткацтву. Заснавала ў доме ткацкую майстэрню, дзе пакуль збіраецца заняцца тканнем на двух традыцыйных кроснах.

Наведвальнікі вернісажу былі захоплены. Пані Агнешка, якая для ўласнага выкарыстання ў Гарадку стварае ювелірныя вырабы:

— Я прыглядаюся, таму што я пачынаю рабіць нешта падобнае, але для ўласнага выкарыстання. Я прыйшла на выставу таму, што, мабыць, у пані Дароты штосьці падгледжу. Прыкмячаюцца вышэй за ўсё колеры. Захапляюць мяне жаўцізна і зялёнасць. Калі б я ўбачыла яе працы на вуліцы, адразу пазнала б, што яны ейныя.











Дзве пажылыя пані Марысі з Гарадка:

— У наваколлі, то толькі ў Залуках ёсць чалавек, які робіць з лямцу валёнкі, але толькі для тых, хто захоча. Такіх рэчаў з лямцу ў нас я яшчэ не бачыла. Гэта вельмі працаёмкая работа і трэба мець густ. Прыгожа падабраны гэтыя колеры, такія яркія, такія чароўныя. Ці то абажур, ці шалік, ці чахол для сшытка, усе такія з густам, а ў гэтых шаліках аж хочацца паказацца. І яна такая таленавітая, і ўся яе сям'я. І яна наша, наша заслужаная.

У злямчаных шаліках і пацерках Дароты Сульжык падчас адкрыцця выставы выступіла жаночая група «Кумы і сванькі», выконваючы песні, якія выжылі з затопленай у 1980-я гады ў выніку будаўніцтва вадасховішча Семянотўка вёскі Лука і яе ваколіц. Перад іх выступленнем гісторык праф. Алег Латышонак успамінаў:

— Я намовіў дзяўчат спяваць лучанскія песні таму, што практычна няма нікога, хто мог іх памятаць. Некаторыя з іх запісаў Сцяпан Копа. Іншыя знайшоў Мікалай Гайдук і былі яны апублікаваны ў «Ніве» і «Беларускіх календарах». А найстарэйшыя запісаў Міхал Федароўскі ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя. Я ўдзячны «Кумам і сванькам», якія захавалі гэтыя песні і што калектыў выпусціў складзены з іх альбом.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

ISSN 0546-1960